

Лех Крук → 4


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714





XIX «Гавэнда» → 8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 10 (3226) Год LXIII Беласток, 11 сакавіка 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**У марозны і завірушны сакавіцкі вечар (2.03.) у Бельску-Падляшскім прайшла польская прэм'ера кніжкі «Па Прыпяці па Нобель». У Бельскім доме культуры з чытачамі на сустрэчы з цыкла «Твары вядомыя і невядомыя» сустрэлася Ганна Кадрацюк-Свярубская, якая больш за чвэрць стагоддзя ходзіць па ніўскіх сцежках і пратоптвае новыя шляхі, каб дайсці да сябе і свайго. Падарожжы ў душы і месцы запісвае ў рэпартажах, у кнігах.**

# Вечар у Бельску
## — Гандзя, лёсы, Палессе

Пятая яе кніга рэпартажаў «Па Прыпяці па Нобель» — занатоўкі і роздумы з вандровак на Палессе, якое схадзіла і з'ездзіла аўтарка на працягу некалькіх гадоў, разгадваючы яго існасць і дух. Гандзіна падарожжа па Прыпяці завяршаецца ў мясцовасці Нобель, адкуль Прыпяць, «палеская Амазонка», уплывае на тэрыторыю Беларусі. Гэтыя старадаўнія мясцы, дарогу куды працягне яшчэ не раз падарожніца ў гісторыю і цяперашнюю быль, стварылі незвычайную, самавітую культуру. У яе абсягу ўсе мы, а кніга Ганны Кандрацюк — яшчэ адна моцная цаглінка да яе дома. І людзі, моманты з якіх жыцця, нашы, як з роднай Гандзі Кутлоўкі ў Нарваўскай гміне, з пушчанскай Гайнаўшчыны. Тыя людзі, якіх сустрэнем на старонках кнігі — настаўнікі, людзі культуры і хлеба, святары, народныя лекары, здабыўцы падземных скарбаў — як Гандзін дзед Сцяпан — жывая крыніца казак, быллзў і легендаў. А сама яе родная Кутлоўка — адно з самых магічных месцаў на Падляшшы. Ганна нарадзілася ў 1965 годзе ў сям'і Яна і Марыі (Міхалевічанкі) у той прыпушчанскай мясціне, непадалёк мястэчка Нарва. Гандзя адзначае: «У Кутлоўцы знаходзіцца сем курганоў з III і IV стагоддзяў. Тут жа захаваўся стары фрагмент Бельскай пушчы, вядомы як урочышча Ботвінушчына. Старажытны дух месца, пушча, навакольныя багны з ашаламляльным багаццем лекавых раслін спрыялі метафізічным практыкам. Калі я была малая, я думала, што ўсе самотныя жанчыны ў свеце займаюцца магіяй». Ад маленства напоўненая беларускім старажытным духам, Ганна Кандрацюк спазнала і разгадала магію перш за ўсё слова і яго моц, і вядзе яе яна на тыя дарогі, якія чакаюць яе крокаў. Пайшла яна па шляху забытага музыканта з Сакольшчыны Яна Тарасевіча, разгадала сцежкі паэта Анатоля Сыса, прайшла па завілістых дарожках трызніўшых беларусаў, абышла сучасна-старадаўнюю каханую Беларусь. Заспявала з зажуранай Катэрынай 13 старажытных песень з яе роднай хаты і наваколля. Ганна Кандрацюк апублікавала ў «Ніве» больш за сотні літаратурных рэпартажаў з Падляшша, Беларусі, Украіны, Латвіі, Літвы, Малдовы, Славакіі, Канады. Яе творы перакладзены на польскую і англійскую мовы. У новай кнізе наведала багоннаянтарнае Палессе, якое лічаць прарадзімай славян.

— Я думаю, што гэта прарадзіма не толькі славян, — кажа аўтарка. — У гэтым найстарэйшым краі можна зразумець, што адбываецца ў наш дзень, што можа прыйсці. Пішучы, нельга ствараць нейкую сваю праўду. Аўтар не ёсць на першым месцы. Калі мой герой возьме ў рукі маю кніжку, скажа, што «гэта чыстая праўда».

Для гэтага патрэбны былі крокі па гарачых слядах і одум. Аўтарскую сустрэчу вёў галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Вапа, які вельмі паэтычна перажыў і гістарычна асэнсаваў вандроўку Ганны па нашым Палессі. «Гэта напісана ад сэрца і ад душы. Гэта праўда пра бязмежнае Палессе, дзе людзі такія самыя як у нас. Гэта кніга таксама і пра нас. Ці пераедзем у Бельск, у Ковель ці Пінск, Берасце, Маларыту... Гэта супольнае для гэтага лёсу і гэтай тэрыторыі, і нашага менталітэту, думання. Я б спытаўся ў Ганны пра разуменне царквы, дахрысціянскага, першабытнага космасу, і сям'і. Гэта тыя рэчы, якія вырашаюць лёс палешукоў».

— Гэта кніга для ўсіх тых, хто любіць Палессе, хто любіць пазнаваць карані не толькі нацыянальныя, але і пачаткі чалавецтва, хто цікавіцца прыродай і ракой Прыпяць. Для тых, хто цікавіцца чарамі, замовамі, песнямі, хто цікавіцца вікінгамі, яцвягамі, і перш за ўсё для тых, хто цікавіцца мудрымі лёсамі людзей, — перакананая аўтарка. — Чаму мы сёння ў Бельску? Тут найбольш чытачоў «Нівы». І для мяне вялікай падтрымкай былі каментарыі чытачоў, калі я пісала і публікавала ў «Ніве» свой палескі цыкл у адрэзках (кніга з'яўляецца частковым зборам рэпартажаў цыкла). Бельск з'яўляецца нашай культурнай сталіцай. Нас спалучаюць таксама рэчкі. Сустрэла я прыроду і людзей як у першабытным адзінстве, быццам прысмак раю. Найбольш мяне зачаравала там дабрыня людзей. «Колькі да нас прыязджало — і з Масквы, і Кіева, але шчэ такої то нэ было»...



Падарожжа Ганны на Палессе было жывым даследаваннем лёсаў і былога. Якія былі самыя цікавыя даследчыцкія здабыткі з Палесся?

— Запісала я таемныя замовы, невядомыя. Там людзі не любяць гаварыць многа. Чытаюць там мову жэстаў, на адлегласць адчуваюць чалавека. Я толькі недзе падчас сёмай паездкі трапіла да больш таемных рэчаў. Таксам з сябе нешта мусіла даць, чагосьці навучыцца. Цешуся, што нешта адкрывалася... Ёсць таксама матэрыял у гэтай кніжцы, што спрыяе аптымізму. Вайна. Але людзі маюць там большую вітальнасць, большую ахвоту да жыцця. Гэта відаць па дзетках, якія маюць намнога больш сілы і натхнення да жыцця...



Ганна Кандрацюк (у сярэдзіне) з сям'ёй, з кветкамі мама аўтаркі — Марыя

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**





# Шуфель

## для адкідвання снегу

Расія здзівіла свет новым тэхнічным дасягненнем. Уяўляеце — тэхнічнае дасягненне, а аўтар — Расія! Ну няўжо не дзіва? Зразумела, што гэтае дасягненне не суперкамфортны легкавы аўтамабіль для ўсёй сям'і, і не звышмагутны і кампактны камп'ютар, і нават не зручны для працы шуфель для адкідвання снегу. Не, гэта ракета. Ну не тая, на якой можна паляцець на Марс, а проста звычайная баявая ракета, якая можа несці ядзерны зарад і з лёгкасцю ўзарваць які-небудзь горад на планеце Зямля. Любы горад можа ўзарваць, у кожнай кропцы планеты. Нават лёгка можа разнесці ў пыл той горад, у якім жывяце вы.

Пра гэтае дасягненне свету паведаміў сам начальнік Расійскай Федэрацыі на сваім штогадовым пасланні парламенту і расійскаму народу, а заадно і ўсяму астатняму свету. Хай ведаюць усе, чаго тут сціплічаць. Ракета то не простая. Такой няма больш ні ў кага. Яна не толькі можа несці ядзерны зарад, але і сама мае ядзерны рухавік. Таму можа бясконца лятаць у вас над галовамі і быць незаўважанай і зваліцца на зямлю таксама можа нечакана як пярун з яснага неба. Толькі ў адрозненні ад перуна зробіць гэта па загадзе з Крамля.

Начальнік Расіі вельмі ганарыўся новай зброяй і паабяцаў, што пакуль іншыя будуць працаваць над нечым падобным для сябе, яго навукоўцы прыдумаюць яшчэ што-небудзь не менш эфектнае. Ну і ўсім напэўна ясна, што гэта будзе не суперкамфортны легкавы аўтамабіль для ўсёй сям'і, і не звышмагутны і кампактны камп'ютар, і нават не зручны для працы шуфель для адкідвання снегу... Гэта зноў будзе ракета.

У Расіі то і раней у зброі недахопу не было. Нават жарт ёсць такі: маўляў, што б не рабілі расійскія навукоўцы, у выніку ўсё адно атрымліваецца аўтамат Калашнікава. Ну, прыкладам, працуюць над новым аўтамабілем, ці камп'ютарам, ці нават над тым шуфлем, прападзі ён пропадам, а і так атрымліваецца аўтамат. Але гэта ўсё ў мінулым. Зараз жа, калі верыць расійскаму лідару, навукоўцы ад пачатку працавалі над тым, што і атрымалася ў выніку. І вось гэтае дасягненне сапраўды здзіўляе больш, чым сам выніковы цудапрадукт, якім з вялікім гонарам пахваліўся прэзідэнт Расійскай Федэрацыі. І асабліва падкрэсліў, што цяпер то з ім прыйдзецца размаўляць тым палітычным лідарам планеты, якія раней такія размовы ігнаравалі.

Парламентарыі расійскай Думы проста прыйшлі ў звышэмацыйны экстаз ад слоў свайго лідара. Яны вельмі цешыліся, што іх краіна зараз можа ў імгненне вока знішчыць тое, што яны, парламентарыі, па сутнасці сваёй прафесіі нібыта павінны ствараць. Я маю на ўвазе справядлівы суд, празрыстую і справядлівую выбарчую сістэму, сістэму абароны правоў чалавека, эфектыўную эканоміку, якая можа прадукаваць суперкамфортныя аўтамабілі для ўсёй сям'і, ці звышмагутныя і кампактныя камп'ютары, ці хаця бы зручныя для працы шуфлі для адкідвання снегу, што для Расіі даволі актуальна.

Але ж не туды тое. Сумна ім відаць займацца павышэннем дабрабыту свайго насельніцтва. Сумна і нецікава. Значна весялей паўдзельнічаць у планах знішчэння тых, хто гэтага дабрабыту ўжо дасягнуў. Нездарма ж у тым мульціку пра новую суперракету, які паказалі пад словы расійскага начальніка прама ў парламенце, баявыя зарады падаюць не куды папала, а дакладна на тэрыторыю Злучаных Штатаў. А начальнік Расіі пры гэтым сцвярджаў, што гэтая ракета прынясе мір, бо яна і ёсць парытэтам. І яшчэ сцвярджаў, што Расіі чужых зямель не трэба. На вялікі жаль ён не растлумачыў, якія землі лічыць чужымі, а якія такімі не лічыць. Таму па-ранейшаму застаецца загадкай, хто яшчэ з суседзяў знаходзіцца ў статусе Крыма, а хто можа пакуль крыху ўздыхнуць з палёгкай.

І яшчэ адна незразумеласць ёсць ва ўсім гэтым. Расія, звычайна, усе свае вайсковыя здабыткі заўсёды трымала ў жалезным сакрэце. Так яшчэ з часоў Савецкага Саюза павялося. А тут сам галоўнакамандуючы па тэлебачанні здраджвае на ўвесь свет самую вялікую ваенную таямніцу. Ды за такое... Аж страшна сказаць...

Таму і не асабліва верыцца, што такая ракета ёсць яшчэ дзе, акрамя таго мульціка.

А зручных і якасных шуфляў для адкідвання снегу то няма дакладна.

Віктар САЗОНАЎ

# Дробка песімізму ў некалькіх часцінах



Частка другая

Апісаная ў папярэднім нумары схема чалавечых паводзін — спрошчаная, таму важны ў ёй ланцуг прычынна-выніковай сувязі ўяўляецца відавочным. Аднак, невідавочная яго паўтаральнасць. На падставе гістарычных фактаў можна зрабіць выснову аб тым, што краху мінулых цывілізацый папярэднічаў іх росквіт. На іх руінах фармуецца наступная, якасна іншая, але не лепшая і не горшая, чым папярэдняя. Штосьці ў тым ёсць з міфа аб адраджэнні Фенікса ў агні. Але чаму павінен згарэць Фенікс перад тым, каб адрадзіцца — гэта немагчыма адгадаць! Тым не менш цыкл яго народзін і смерці паўтараецца са своеасаблівай паслядоўнасцю. Я хацеў бы верыць, што з попелу ад яго ўзнікае больш і больш дасканалая істота. Але як бы гэта не было, гэтая сімволіка, якую ён прыносіць, арганічна ўласцівая логіцы глабальных змяненняў, маштаб якіх знаходзіцца за межамі чалавечага ўяўлення. У гэтым святле іх польскі асколак не падаецца чымсьці асаблівым. Аднак, гэта цяжка прадказаць.

Касандрычны тон не падыходзіць сціпламу фельетаністу «Нівы». У рэшце рэшт той факт, што скрынка Пандоры была адчынена, не можа быць адмоўлены. Цыклы эпідэмічнага распаўсюджвання новых штамаў хвароб павялічваюцца з году ў год. Практычна за кожныя некалькі месяцаў паяўляецца новы, устойлівы ад прэпаратаў мутант. СААЗ, агенцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, якое займаецца маніторынгам за станам здароўя людзей, папярэджвае, што гэта толькі пытанне часу, калі мясцовая эпідэмія стане глабальнай пандэміяй. Так што можна пытацца не «ці?», але «калі?». Наша «заўтра» малюецца вельмі песімістычна. Але не толькі заразы вылiваюцца з Пандорынай скрынкі. Павышаная геапалітычная напружанасць набліжаецца да крытычнага ўзроўню. Кітай ужо даўно мабілізаваны, каб супрацьстаяць Злучаным Штатам, і ў больш шырокім плане з Захадам, які падпарадкаваў яго культурна і цывілізацыйна ў дзевятнаццатым стагоддзі; гэтая праблема расце. Кітайскі народ ніколі не дараваў «белым малпам», як яны фамільярна кажуць паміж сабой аб белай расе. А Расея гэта гарачая праблема. Ужо не так узбройваецца яна поўнасцю, як мілітарызуецца ментальна. Для расіян з гэтак званай глыбінкі вайна — поўная абстракцыя, але іхні ўсё большы дазвол на яе — вельмі рэальны. Гэта не столькі вынік мілітарысцкай прапаганды ўрада Пуціна, колькі неабходнасць кампенсацыі за структурную беднасць і жыццё без годнасці, якога зазнаюць яны штодзень. Вайна, асабліва пераможная вайна, была б у стане той дрэнны досвед неяк асвяціць, і крута, таму што крута, тую іхнюю годнасць вярнуць. Не пераменшваючы важных прычын краху царскага рэжыму, карумпаваная ўлада ў Расіі хутчэй прывядзе да знешняй вайны, чым дазволіць на ўнутраную рэвалюцыю мас. Для яе вайна або яе патэнцыяльная магчымасць — выжыванне. Гэта баярскія бліскаўкі і феадальная зручнасць. Рэвалюцыя — прапашчая. У лепшым выпадку — эміграцкае збаўленне на бруку Парыжа або Нью-Йорка.

Буду спасылацца на прыклад яшчэ больш густанаселенай Афрыкі, разрыванай паміж ісламам, хрысціянствам і адраджаючымся анімізмам; паміж іхнімі фундаменталізмамі і чалавечым імкненнем да ўстанаўлення трывалага міру і стабільнасці; Афрыкі галоднай, без мінулага і без будучыні; Афрыкі жорстка выпрабаванай постказаніяльным падзеннем. Ёсць яшчэ Індыя і Пакістан, узброеныя ў ядзерную зброю, якія па-ранейшаму застаюцца паміж сабою ў стане неаб'яўленай вайны. Ізраіль і арабскія краіны з'яўляюцца яшчэ адным агменем катастрофы...

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Багатыя беднасцю

У апошнім часе прыйшлося мне некалькі разоў запар падарожнічаць у Варшаву не цягніком, бо ім зараз найбольш зручна і хутка, але на машыне па ўвесь час будаванай экспрэснай дарозе са сталіцы Падляшскага ваяводства ў сталіцу Польшчы. Падляшскі адрэзак трасы ўжо завершаны, трываюць яшчэ працы ў Мазавецкім ваяводстве. Таксама даволі аптымістычна выглядаюць прагнозы наконт рэальнай пабудовы карпацкай трасы, спалучаючай поўнач і поўдзень Еўропы. З пункту гледжання гаспадарчай перспектывы яе пабудова дае пэўныя шанцы на паменшанне адсталасці паміж усімі ваяводствамі ўсходняй сцяны і часткай Польшчы, расталожанай на захад ад лініі ракі Віслы. На зломе першага і другога кварталаў 2018 года мае адбыцца міжнародная канферэнцыя наконт яе рэалізацыі, у час якой, як праінфармаваў міністр інфраструктуры польскага ўрада Анджэй Адамчык, чарговыя дзяржавы падпішуць акт далучэння да гэтай ініцыятывы, у тым ліку Беларусь, Боснія і Герцагавіна, Харватыя і Сербія. Такім чынам вакол гэтага еўрапейскага камунікацыйнага калідора эканамічна інтэграваліся б краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Гэта ўжо таксама і геапалітычныя выклікі і гульні, якія заўсёды нясуць з сабою пабольшаную рызыку для поспеху такога праекта. Але на сёння пэўным фактам з'яўляецца адно: фінансаванне гэтай трасы ўпісанае ўжо ў бюджэт Еўрасаюза.

Я аднак вяртаюся на наш варшаўска-падляшскі панадворак, бо генеральна адсталасць і эканамічны разрыў паміж двума рэгіёнамі краіны, раздзеленымі Віслай, пасля 1989 года набраў, на жаль, прысляшэння. Кіруючыя краінай палітыкі такую дэградацыю рэгіёна, у тым ліку нашага ваяводства, прыбіралі нейкімі тлумачэннямі пра патрэбу існавання зялёных лёгкіх Польшчы, пра агратурызм як адзіную галіну гаспадаркі здольную падняць рэгіён, ці толькі экалагічную, сялянскую прадукцыю як лякарства і перспектыву рэгіянальнага развіцця. Што гэта былі толькі байкі, дастаткова глянуць на дэмаграфію ваяводства і эканамічныя інвестыцыі ў ім, дзе нават сталіца ваяводства Беласток не ў змозе прыцягнуць да сябе сур'ёзнага бізнесу і інвестараў. І справа не толькі тут у нястачы рэгіянальнага лётнішча пад Беластокам, але ў структурна-тэхналагічнай адсталасці ўсяго рэгіёна. Спадзяюся, што зараз кіруючыя краінай стрымаюць слова, каб рэальна зменшыць разыходжанні ў заможнасці паміж усходам і захадам Польшчы. Факты пакуль гавораць аднак самі за сябе.

Еўрапейскае статыстычнае ўпраўленне (Еўрастат) апублікавала спісак найбяднейшых і найбагацейшых рэгіёнаў Еўропы ў 2016 годзе і параўнала іх з 2011 годам. З апублікаванага спіска вынікае, што пяць польскіх рэгіёнаў знаходзіцца ў катэгорыі найбяднейшых. Але ўжо на шчасце закрываюць яны другую дзясятку. Найбяднейшым рэгіёнам у Еўрасаюзе з'яўляецца паўночны-захад Балгарыі, дзе на аднаго жыхара выпадае 8,6 тысячы еўра валавога ўнутранага прадукту (РКВ) у год, значыць 717 еўра штомесяц. Такая прыбыль гэта ледзь 29% сярэдняга еўрасаюзнага прыбытку. І менавіта адміністрацыйныя адзінкі Балгарыі, Румыніі і Венгрыі састаўляюць напераменн тую бедную частку Еўропы, да якіх з шаснаццатага месца далучаюцца польскія ваяводствы: Люблінскае, дзе выпрацоўваецца 47 адсоткаў валавога ўнутранага прадукту, Падкарпацкае і Падляшскае — па 48%, Вармінска-Мазурскае і Свентакшыскае — па 49%. У Польшчы найхутчэй гаспадарча расце Вялікапольскае ваяводства — з 68 да 75 адсоткаў сярэдняй еўрапейскай і Мазавецкае — са 103% да 109%. Але памятайма, што тут стаўку падбівае сталіца Польшчы — Варшава, бо некаторыя часткі Мазавецкага ваяводства такія ж бедныя, як і іх суседзі на ўсходнім баку краіны. А хто самы багаты ў еўрапейскіх статыстыках? Гэта жыхары заходняй часткі Лондана, дзе знаходзіцца фінансавы цэнтр. Там выпрацоўваецца ажно 611 адсоткаў сярэдняй ЕС, гэта 178,2 тысячы еўра ў год. На другім месцы апынуўся Люксембург, за ім — Гамбург. Далей ідуць нашы паўднёвыя суседзі — Браціслава і Прага — па звыш пяцьдзясят тры тысячы еўра.

Ці ўдасца для ўсходняй Польшчы вырвацца з ліку рэгіёнаў горшай катэгорыі? Пакажуць гэта хутка наступныя пяць гадоў і сродкі з еўрасаюзнага і краёвага бюджэтаў, накіраваныя на змаганне з такой адсталасцю.

Яўген ВАПА

# Гасцініца «Беларусь»:
# — Прыязджайце яшчэ!

У Полаўцах, дзе мы перасякалі мяжу з Беларуссю, ахіналі нас свойскія прывіды і знаёмыя нервы. На польскім баку нас сустрэлі як доўгачаканых гасцей, прытым мы выклікалі яшчэ цікавасць:

— Na mojej zmianie jesteście pierwsi, — адзначыла кантралёрка. — Ile to kosztuje?

Пытанне датычыла кошту турыстычнага пропуска, па якім без візы цягам трох або дзесяці дзён можна наведаць Брэстчыну і Гродзеншчыну. Закон уступіў у сілу 1 студзеня 2018 года. Мы перасякалі мяжу 13 лютага ў якасці першапраходцаў...

Таксама ў беластоцкім офісе «Юніёр», дзе раней я афармляла пропуск, адзначылі, што раней ніхто не набыў пропуска ў Брэст. Чарговыя хвіліны там шукалі гасцініцу, каб у рэшце рэшт прапісаць мяне ў гатэлі «Беларусь» на бульвары Тараса Шаўчэнкі. Ну, файна!

А кажуць: «Брэст жа ў Беларусі!».

Трохдзённы пропуск са страхоўкай, які каштаваў 80 злотых, выдалі мне цягам двух дзён.

Усё гэта, у параўнанні з валакітай пры выдачы візы, здалося неверагоднай палёгкай.

У падобным спеху палякі адправілі нас на мяжы ў Полаўцах. Перасяканне кардона трывала няцэлыя дзесяць хвілін. Але далей не пайшло ўжо так гладка...

* * *

— Ну ўсё! — уздыхнуў Яўген Вапа — Мабыць, пачакаем тут рускі месяц, пакуль прачытаюць трыста старонак.

Усё з-за беларускіх кніг і «Нівы», якія насцярожылі службоўцаў на беларускай пагранзаставе.

— Паклічце старшага, — загадаў малады, надта ветлівы і надта чуткі памежнік.

Перад гэтым я расказала яму пра змест кніжкі, а ў якасці доказаў яе апалітычнасці мелі паслужыць здымкі з канём, першабытнай прыродай і народнымі смакоцццямі. Гэта падзейнічала. Кніжка, ці хутчэй каляровыя здымкі, спадабаліся і «старшаму», які не прыдзіраўся і загадаў: — *Ехаць!*

Аднак маладому і надта ветліваму службоўцу не хацелася так звычайна адпусціць нас. Чарговыя дзесяць хвілін ён дапытваў:

— *З кім будзеце сустракацца ў Брэсце? Назавіце фаміліі і адрасы.*

Апошняя разведка напсавала найбольш крыві. Нічога, што ў пропуску, як вол, віднела гасцініца «Беларусь». У канцы службовец адпусціў нас. Здавалася, апошнія допыты ён праводзіў дзеля ўласнага задавальнення. Мы пераехалі мяжу і не давяралі, што гэта атрымалася так хутка. Калі ўлічыць беларускія меркі, усё адбылося вокамгненна. Мы пераехалі мяжу цягам сарака хвілін. Ура! Шчаслівыя і падбадзёраныя ўдачай, ажно самі сталі да сябе прыдзірацца...

— Добра што «Ніву» не прасвятлілі!

— Ну! О тады, то было б...

У нашым багажы былі яшчэ нумары газеты з календаром, прымеркаваным да стагоддзя БНР. Іх, на наша шчасце, не прыкмеціў ні надта ветлівы і надта чуткі памежнік, ні яго памочнікі.

На беларускай мяжы найбольш камфортна адчуваюць сябе дробныя кантрабандысты. Яшчэ ў Полаўцах мы сустрэлі знаёмага з Гайнаўкі, які імчаў на машыне па тавары і бензін. У час, калі мы апынуліся на беларускім баку, ён ужо вяртаўся са сваімі пакупкамі і ветліва памахаў нам рукой на дарогу...

Каб супакоіцца ад страсцей і памяняць грошы (1 беларускі рубель = 2 польскія злоты), мы прызямліліся ў Высокім. І «на добры дзень», пацягнулі ў бар «Бістро», дзе смачныя беляшы і чабурэкі...

— Да нас палякі за беляшамі на продаж прыязджаюць! — адзначала маладая прадаўшчыца.

У Высокім абавязкова трэба набыць яшчэ жоўты сыр — рарытэт прадукуюць ужо на экспарт.

Праўда, заесці свой стрэс пасля перасячэння мяжы нам не надта шанцавала. Нідзе ў. Высокім мы не пачулі беларускай мовы.








* * *

У Брэст нас з Яўгенам Вапам запрасілі на курсы «Мова нанова», каб расказаць пра Падляшша і кніжку «Па Прыпяці па Нобель». Хаця мы падагналі гадзіннікі на дзве гадзіны, да сустрэчы заставалася яшчэ шмат часу. Нам пашанцавала пакінуць машыну на вуліцы Дзяржынскага, дзе адбывалася сустрэча. Адтуль, як рукой падаць на вуліцу Савецкую, самы прэстыжны і вітальны бульвар Брэста. Вуліца Савецкая, калі ўлічыць яе магазіны, начныя клубы і рэстараны, кругласутачныя салоны ігры — узорны капіталістычны анклаў. Праз момант мне здавалася, што я ў сучасным Львове. Брэст, аднак, у адрозненні ад шматнацыянальнага і адкрытага Львова, з першага кроку падаўся стэрыльным, рускамоўным горадам. Цягам гадоў, калі я падарожнічала па ўкраінскім Палессі, там усё гаварылі пра брэсцкіх сваякоў і суродзічаў. Здавалася б — яны павіны хадзіць па бульвары і размаўляць на сваёй мове. На месцы іх голас нідзе не прабіўся праз рускамоўнае мора, нават у дыялектнай форме. Выглядала так, быццам мы, якія адначасова шпарылі на трох розных вясковых гаворках, былі адзінымі тут вяскоўцамі!

Яшчэ больш абсурдная карціна чакала нас у рэстаране «Клюква», дзе мелі падаваць беларускія стравы. У меню на рускай мове прапанавалі бліны са смятанай і ікрой.

— Для мяне прынясіце чырвоную гарбату, — заказаў Яўген В.

— Чего? Чего?

— Чырвоную гарбату!

Яго заказ у рэстаране з беларускімі стравамі выклікаў замяшанне і недавер.

— А што такое гарбата? — дапытвалася маладзенькая афіцыянтка.

Дзеўка, на першы погляд дрыгавічанка з навакольнай вёскі, не ведала таксама, што значыць слова «чырвоная».

У рэстаране «Клюква», дзе інтэр'ер здамінавала чырвань, мы кожныя пяць хвілін чырванелі ад сораму і кіслі з-за недахопу шчырасці.

— Я хацеў прачытаць слова «Клюква» і замест таго чамусьці прачытаў «Масква», — адзначыў Яўген Б., які чакаў, пакуль сасмажаць яму яшчэ адно «белорусское блюдо» тыпу «бліны са смятанай і ікрой»...

* * *

Ужо з парога прывітаў нас беларускі гоман і ветлівая грамада ў розным узросце. Быццам трапілі мы ў іншы, прыхаваны ад вулічнага жыцця і вока, свет. Курсы павялі журналісты Іна Хоміч і Максім Хлябец. Першая частка датычыла багацця палескіх гаворак. Публіка разгадвала значэнне архаічных слоўцаў, рагатала і не шкадавала прыкольных каментарыяў. Не менш жыва выглядала прэзентацыя кніжкі «Па Прыпяці па Нобель», якую павёў рэдактар выдання Яўген Вапа. На здзіў суседняе Палессе ў горадзе над Бугам і Мухаўцом аказалася малавядомым і экзатычным. Ніхто не чуў пра Нобель і не ведаў, дзе нарадзіўся беларускі паэт Сяргей Грахоўскі. Затое берасцейцы жыва цікавіліся жыццём беларусаў Падляшша. Яны пыталі ці ёсць магчымасць вярнуць продаж у берасцейскіх шапіках «Нівы». Ведалі, чым жыве наш рэгіён і нават дамагаліся сакрэтных дэталяў, напрыклад, ці вядома, чаму Лёнік Тарасэвіч не з'явіўся на ўручэнне яму ўзнагароды. У ходзе сустрэчы я пазнаёмілася з Анастасіяй Кандрацюк. Дзяўчына падышла да мяне і заявіла пра прыемную акалічнасць. Анастасія, як аказалася, прыехала ў Брэст з Пружанскага раёна.

Уразіла яшчэ братэрская салідарнасць сяброў суполкі «Мова нанова». Калі не хапіла для ўсіх кніжак, людзі ў чарзе суцяшалі іншых:

— Як прачытаю, то вам перадам, а вы перадасце далей...

Не менш прыемна мы правялі неафіцыйную частку вечара з берасцейцамі ў моднай кавярні «Korova». І хаця мы пакінулі Брэст каля поўначы, беручы пад увагу дзве дадатковыя гадзіны, я была ў Беластоку ў 00:15. А паколькі мы вярталіся без беларускіх кніжак, нас прапусцілі праз мяжу мігам, адразу пасля праверкі дакументаў. Перасяканне дзвюх пагранзастаў заняло 25 хвілін. Яшчэ на развітанне беларускі памежнік, які з прызнаннем пагладзеў на нашу машыну, адазваўся палескім кодам:

— Ну, харошай вам дарогі! Яшчэ прыязджайце!

**Ганна КАНДРАЦЮК,**
фота Яўгена Бялькевіча

## Зачаравала мяне іх прыгажосць

27 лютага гэтага года паехаў я ў вёску Капіташчына (яна налічвае 30 жыхароў) на Гайнаўшчыне. У ёй ёсць мураваныя і драўляныя дамы з перавагай апошніх. Якраз драўляныя хаты (усіх іх адзінаццаць) тут прыгожыя. Ёсць адна хатка вельмі старая, запушчаная, як той агародчык каля яе, і зусім забытая. Але толькі адна яна. Усе іншыя, па ўсім відаць, маюць добрых дбайных гаспадароў.

У сярэдняй частцы вёскі час быццам затрымаўся ў месцы. Тут на адным баку вуліцы збегліся ў чародку цікавыя па архітэктуры і сваёй прыгажосці драўляныя дамы (некаторыя з вялікімі і малымі ганачкамі). Яны мяне зачаравалі, між іншым, дом лесніка. Цікава выглядае дом з дабудаванай другой такой жа часткай і памаляваны на ясна-зялёны колер Міхала Карпюка, хата Андрэя і Бажэны Суботаў.

З Капіташчыны паехаў я ў суседнюю малую вёсачку Бачынскія (прысёлак Ахрымоў, у ім тры драўляныя хаты) і ў Ахрымы. Вёска Ахрымы не такая малая. Пражывае ў ёй 97 чалавек. Тут і 23 драўляныя дамы, у ліку якіх дзесяць вельмі добра захаваных, адноўленых, ашаляваных і памаляваных.

У драўляным будынку колішняй школы цяпер прыгожая святліца. Прыгожа адрамантавалі бацькоўскія будынкі, між іншым, Вера Радзіванюк, Ліля Кардаш, Ірэна Бельская, солтыс Ахрымоў Павел Несцярук, Юрый Бельскі і Рыгор Бельскі. Мой школьны сябра Юрка самастойна рамантаваў хату ўсярэдзіне яшчэ восенню мінулага года. Многае ён пераняў ад свайго бацькі, вопытнага цесляра. Пра знешні выгляд свайго дома ўвесь час дбала і дбае Вольга Адамюк. Яе ўспаміны пра колішняе жыццё на вёсцы, пра вясельны абрад ды шмат народных песень беларускія тэлежурналісты запісалі на кінаплёнку. Яна выйшла замуж у Ахрымы з калёніі Новага Ляўкова. Навучыла дочак ткаць непаўторныя па ўзоры дываны ў г.зв. переборы. Я пісаў пра іх і рабіў здымкі ў наш родны тыднёвік «Ніву», калі настаўнічаў у Пачатковай школе ў Старым Ляўкове яшчэ да 1970 года.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

## Усё пераменяецца

З ходам гадоў мяняецца натура. Калі ўспамінаю шасцідзесятыя гады, калі мы ездзілі па сёлах з кінаперасоўкай, дык прыпамінаецца мне зіма 1962/1963 гадоў са снежнымі сумётамі і моцнымі маразамі. Гэтыя зеніту дасягалі ў другой палове студзеня, на Вадохрышча. Таму і ў народзе захавалася прымаўка аб «крашчэнскіх маразах» (аж платы трашчалі). А ў лютым казалі: «ляцькуха — снегу па вуха». Катанне санкамі, масленіца. А зараз усё шыварат-навыварат — каляды без снежнага пуху, а ў пачатках лютага здавалася, што набліжаецца прадвесне, аж тут паўночна-ўсходні вецер закруціў і наступіла хваля лютых маразоў. Як перадавалі СМІ, у краіне былі смяротныя выпадкі ў людзях. Пацярпелі бяздомныя. Начлежныя дамы перапоўненыя. Гарадская ахова і паліцыя правяраюць кожны закавулачак, дзе магла б схавацца жывая істота. З суботы на нядзелю (з 24 на 25 лютага), напрыклад, у мяне за акном градуснік паказваў а сёмай гадзіне зранку — 16 градусаў, а ў абедні час напалову менш — 8 градусаў марозу. Сіноптыкі прадвяшчаюць, што зіма прадоўжыцца да канца сакавіка, а вясна будзе халодная і дажджлівая. Як будзе ў сапраўднасці, дык «пажывём — пабачым, — сказаў сляпы», кажа руская прымаўка. А кажуць, што прымаўкі з'яўляюцца мудрасцю народаў. Я ў гэта веру.

Уладзімір СІДАРУК

# Не верыць у беспарадак




Уласнік аграсядзібы, краязнаўца, мясцовы дзеяч. Сакольшчыну лічыць сваёй святой бацькаўшчынай. Яе гісторыя, гісторыя гэтай часткі Падляшша пастаянна яго здзіўляе і дае матывацыю для новых дзеянняў, якія часта сустракаюцца з неразуменнем з боку як грамадства, так і мясцовых улад. Яго аўтарытэты гэта папа Францішак і Уладзімір Пуцін. Аднак апошнімі гадамі найбольш энергіі прысвячае ўшанаванню тых, якіх ужо няма. **Лех Крук** за свае грошы, прысвячаючы свой час, парадкуе мясцовыя забытыя людзьмі некраполіі: яўрэйскі кіркут у Янаве і могільнік салдат Чырвонай Арміі ў Саколцы.

**«Ніва»: — Вы маеце таксама аграсядзібу?**

**Лех Крук:** — Маю.

**— А нехта ў Янаў прыязджае? Бываюць людзі, якім цікавы нашы ваколіцы?**

— О, ты сёння прыехала (*смех*).

**— Ну, так. Тады якіх атракцый магу чакаць?**

— А што хто любіць. Прырода. І ў Янаве можна знайсці цікавыя месцы, ведаючы яго гісторыю. А тут, на панадворку, планую яшчэ ў гэтым годзе зрабіць саўну.

**— У Вас напэўна можна добра з'есці. Сёння гусь на абед?**

— Так. Гэта гусь сваёй гадоўлі. Але я сам нічога не зрабіў бы, калі б мне не дапамагалі жанчыны з акалічных вёсак. А спечаная гусь традыцыйна, з бульбай і морквай.

**— Тоўстая тая гусь. Тлушч аж цячэ па блясе.**

— Але звярыны тлушч не шкодзіць. Ён здаровы з такой гусі. Можна многа з'есці. Для здароўя.

**— Веру. Вы здаровы і хапае Вам сілы, каб яшчэ нешта рабіць у якасці валанцёра.**

— Так, гэта праўда. Здароўе вярнулася і далей упарадкоўваю некраполіі. Калі б не было сілы, не займаўся б гэтым далей, але яшчэ маю ахвоту, крыху часу, таму на вясну маю ўжо планы.

**— Але Вашы дзеянні выклікаюць таксама шмат супярэчнасцей.**

— Ну, так. Я павесіў на могілках жаўнераў Чырвонай Арміі ў Саколцы два сцягі: польскі і расійскі. Ну, знялі. Не падабалася.

**— Але пры папярэдняй уладзе Саколкі не было лепш. Памятаю, што знялі таксама Вашу дошку з надпісам, бо Вы не кансультавалі гэтага з захавальнікам помнікаў даўніны, які даглядае некраполію.**

— Ну, знялі, бо надпіс мелі яшчэ ўзгадняць з Інстытутам нацыянальнай памяці, з захавальнікамі помнікаў і яшчэ з Ваяводскай управай... Дошку знялі і яна ў бургамістра стаяла.

**— А так дакладна то што Вы там напісалі?**

— Ну, такі надпіс быў супярэчлівым крыху, што тут знаходзіцца месца вечнага спачыну нашых «ukochanych i nieodżałowanych braci». Гэта з каталіцкай веры. Я — каталік і лічу, што ў надпісе няма нічога дрэннага. Гэта годнае пахвалы, але для некаторых — спрэчнае. Можа там і злыя людзі былі, але заўсёды пра нябожчыкаў, памерлых трэба гаварыць добра.

**— Апрача таго, што павесілі дошку, што Вы на могільніку яшчэ тады зрабілі?**

— Помнікі абчысціў з моху і адмаляваў іх. Кветкі паклаў, лямпы салярныя ўстанавіў...

**— Ведаю, што нягледзячы на праблемы са спрэчнай дошкай, Вам усё-такі тадышняя ўлада дапамагала?**

— Прыхільна да гэтага ставіліся. Намеснік бургамістра Пятро Буйвіцкі дапамог мне тады фронт могілак жаўнераў Чырвонай Арміі аднавіць. Супольна рабілі. Трэба аб'ядноўваць супольнасць, а не дзяліць, раз'ядноўваць... Трэба глядзець у будучыню, клапаціцца пра дабро дзяцей, унукаў, каб было ім хораша. Такая русафобія вядзе ў адваротным напрамку. Нічога добрага не прынясе, толькі многа кепскага.

**— Добра, могілкі салдат Чырвонай Арміі крыху дапамагалі Вам адрамантаваць улады горада Саколкі. А хтосьці памагае пры ўпарадкаванні янаўскага кіркута?**

— А ёсць такая жанчына з Беластока.

**— З яўрэйскай гміны можа?**

— Не.

**— А як ідзе ўпарадкаванне кіркута ў Янаве?**

— Зрабіў я там лапідарый з мацэваў, якія былі выкарыстаны для будовы дарогі ў Трасцянцы. Яшчэ трох гаспадароў знайшло ў сябе мацэвы, таксама іх у гэты лапідарый паставіў. У гэтым годзе буду больш рабіць, бо Бог дае здароўе і трэба рабіць (*смех*).

**— А якія планы?**

— Хачу вакол кіркута паставіць плот і даглядаць мацэвы. Хачу іх больш выэкспанаваць і паставіць іх на ўлік.

**— А на могілках салдат Чырвонай Арміі?**

— Ужо купіў мармуровую фарбу і буду маляваць магілы.

**— Скуль у Вас такая патрэба, каб займацца некраполіямі?**

— Нікога гэта не цікавіла! А я маю ахвоту, маю час і раблю, бо няма ахвотных да такой работы. Звяртаўся я ў гміну з просьбай, каб нешта дапамаглі, але... Ім трэба памагаць, а каб яны дапамаглі!? Не! Не ведаю, сабе здаецца гэта раблю (*смех*).

**— Так што Вы ўласнымі сіламі ахоўваеце гэтыя некраполіі?**

Так. Крыгу сябар, сяброўка дапамагаюць. Для мяне такая работа прыносіць прыемнасць.

**— Скуль найчасцей прыязджаюць турысты наведаць могілкі?**

— Прыязджаюць з Расіі, Францыі, Італіі. З усёй Еўропы.

**— Дзякую за размову і смачную гусь!**



Гутарыла
**Уля ШУБЗДА**
Фота аўтаркі



Фота Аляксандра Вярбіцкага

# Вёска сёння і ўчора

Можа гэта сумнае, што скажу, але памірае наша падляшская вёска. Гэта заўважыла мая цётка, якая бывае толькі раз на пару гадоў у Малінніках, а штодзень пражывае на захадзе Польшчы. Гэта змусіла мяне да рэфлексіі. Памірае таму, што ў асноўным гэта месца жыхарства большасці людзей ва ўзросце 60-90 гадоў. У вёсцы з году ў год сяляне пераcталі гадаваць коней, кароў, а зараз і свіней. Відаць, такая палітыка глабалістычнай сістэмы Еўрасаюза, што не трэба гадаваць жывёлу таму, што ўсё не аплачваецца, а можна купіць у маркетах: малако, мяса і іншыя харчовыя прадукты. Палітыка Еўрасаюза такая, каб Польшча не прадукавала сваіх тавараў, каб заваліць яе сваімі таварамі, зрабіць залежнай ад свайго мяса, малака. Таму на падляшскіх вёсках стала не аплачвацца гадаваць жывёлу, а палі пазарасталі лясамі. У лясах развялося шмат дзікай жывёлы: дзікоў, ваўкоў, ласёў, казуль, якія ў большасці ахопленыя аховай і не можна іх забіваць. Лісы і ваўкі сталі падыходзіць да вёсак і душыць курэй, гусей, качак. Дзікі і зубры сталі нішчыць палеткі з бульбай і збожжам. З-за гэтага, што вёска стала адміраць, прырода стала аднаўляцца і вяртацца на сваё месца.

Адносна жыхароў вёскі трэба сказаць, што моладзь выехала ў гарады. Добра, як на адну вёску застаўся адзін малады гаспадар, да таго з крэдытамі. Вядома, машыны, трактары, корм і збожжа каштуюць намнога больш, чымсьці за часоў, калі гаспадарыла пакаленне нашых бацькоў. Таксама і цана зямлі намнога вышэйшая, чымсьці ў дзевяностых гадах. Каб мець заробак з зямлі, дык трэба мець прынамсі пад 50 гектараў. Малыя гаспадаркі па 10 гектараў ліквідаваліся, а іх уласнікі аддаюць зямлю ў арэнду для вялікіх гаспадароў. Памерла многа людзей і пустыя хаты сталі купляць палякі — жыхары вялікіх гарадоў, якія выйшлі на пенсію. На вёсках паявіліся чужыя жыхары, не звязаныя з гісторыяй вёскі, якіх стала дражніць наша падляшская мова ці праваслаўнае веравызнанне. Так я чуў ад карэнных жыхароў вёсак, дзе хаты пакуплялі варшавякі. Падляшская вёска вельмі змянілася з часу майго дзяцінства, а здаецца мінула толькі 20 гадоў.

Вёска заўсёды была месцам цяжкай працы. Калісьці селянін меў вялікую сям'ю і гэта дзеці яму дапамагалі ў працы, таму, што не было тады машын, якія ў асноўным заступала сіла людскіх рук і жывёлы.Таму сяляне гадавалі многа жывёлы: коней, кароў, авечак, свіней, коз. Каб выкарміць сям'ю і жывёлу, сеялі шмат збожжа: жыта, пшаніцы, аўса, проса, грэчкі. Многіх культур зараз не сеюць. Каб мець вопратку, сеялі лён, з якога ткалі палатно. Такім чынам, калі было сваё мяса, вопратка, збожжа, у даваеннай Польшчы грошы на вёсцы былі амаль непатрэбныя. Народны каляндар праваслаўных свят вызначаў тэмп і від працы. Вясною сяляне заўсёды садзілі і сеялі, летам збіралі сена і збожжа а восенню — капалі бульбу. Затое зімою малацілі збожжа. Праца на вёсцы была круглы год. Зараз вёска стала месцам адпачынку для гарадскіх людзей. Раней была яна таксама месцам маральнага станаўлення чалавека. Гэта ў горадзе людзі абыякава ставяцца да таго, хто, напрыклад, атэіст, а хто жыве без шлюбу, ці якія ў яго погляды на жыццё ці дадзеную справу.

Падзенне вёскі на Беласточчыне пачалося пасля Другой сусветнай вайны. Ужо тады вясковая моладзь пачала выязджаць у горад за працай або вучобай. Пры камуне вучоба ва ўніверсітэтах стала дарэмнай. У гарадах працей было знайсці працу ці жыллё. У горадзе была таксама бясплатная ахова здароўя, калі на вёсцы не было так простага доступу да медыцыны. Таму на вёсцы шмат людзей памірала (асабліва перад Другой сусветнай вайною). Таксама таннела вартасць вясковых прадуктаў, асабліва пасля 1990 года. На сельгаспрадуктах сталі найбольш зарабляць не сяляне і перапрацовачны сектар, але тыя, хто іх прадае гатовымі для спажывання. Гэта прычынілася да яшчэ большага абязлюдзення вёсак. Гэты працэс немагчыма стрымаць, таму што гэта адбываецца не толькі ў Польшчы, але ва ўсім свеце. Людзі проста пайшлі туды, дзе менш гадзін трэба працаваць. Вёска памірае і ніхто не спыніць гэты працэс.

**Юрка БУЙНЮК**

# На рэабілітацыйным аддзяленні (15)

Набліжаўся тэрмін заканчэння другой змены на рэабілітацыйным аддзяленні ў „Ракітніку”. Не паспеў чалавек пазнаёміцца з курортнікамі, а тут і час развітвацца. Праўда, мне пашчаслівілася правесці размовы з сеніёркамі: Марыяй з Барысаўкі, Ясяй з Гайнаўкі, Басяй з Валбжыха ды мілымі сяброўкамі Івонай і Бажэнай са Шлёнска. Але гэтым я не задаволіўся. З мужчынамі якасці не ўдалося пагаварыць. Праўда, іх чатырох (Мірэк, Лёнік, Тадэвуш і Ёзік) закватаравалі на першым, а мяне адзінокага — на трэцім паверсе, у двухмесным пакоі, мяжуючым з пакоямі жанчын. Нашы кантакты абмяжоўваліся да сустрэч у час практыкаванняў або ў сталовай. Нязручны гэта быў момант для даўжэйшай размовы. Па прычыне шматслаёвай дэгенерацыі суставаў і пазваночніка ды абалелай ступні левай нагі я не змог удзельнічаць у арганізаваных мерапрыемствах. Затым вольны час праводзіў пры камп'ютарнай апрацоўцы дапісаў у рэдакцыю або слухаў музыку. Мне найбольш цікавілі кампаньёнкі са Шлёнска. Яны кожны другі дзень рабілі турыстычныя эскапады па Падляшшы. Цікавіліся гісторыяй сакральных аб'ектаў ды драўлянай вясковай архітэктурай.

У час апошняй размовы Івона абяцала, што раскажа аб турыстычных эскападах. А тут заставалася адно тры дні. У сераду, напрыклад, г.зн. 30 жніўня, наладзілі яны раваровую экскурсію праз пагранпераход у Беларусь. А ў чацвер адміністрацыя арганізавала вогнішча з пячэннем каўбасак. Гэта мне здавалася быць зручным момантам для бліжэйшага знаёмства з сяброўкамі са Шлёнска. Зранку ў сталовай не заспеў Івоны і Бажэны. Жанчыны казалі, што паехалі Супрасль наведаць манастыр.

Пасля снедання я ўпершыню падаўся на свежае паветра ў мяжуючы праз дарогу парк. Цяжка было рухацца з абалелымі нагамі. Хаця стопяцідзесяціметровы кусочак дарогі прайшоў я з адпачынкам, але пазнаёміўся з курортным наваколлем. Прыгожа тут. З правага боку, зараз праз вуліцу, угледзеў я паддашак з лавамі з бярвён. Побач „вочка” пакрытае жабнікам, штучным, разумеецца, але з выгляду здавалася быць натуральным. Адпачыўшы крышачку на лавачцы, падаўся я далей. Другі паддашак, крыху большы, крыты гонтай, з моцнымі дубовымі лавамі знаходзіўся пры агароджанай пляцоўцы.

З боку — стажок устаўленых пален для вогнішча. Гэта тут, значыцца, будзем гасцяваць. Чакаў затым нецярпліва адвячорку. Паколькі сустрэча пры кастры назначалася на сямнаццаць гадзін, дык я рашыў пайсці раней. Кампанію заспеў пры застоллі. З левага боку заселі Лёнік, Мірэк, Тадэвуш і Ёзік, з процілеглага — Ева, пані Яся і Марыя. Я прысеўся пры канцы лаўкі за жанчынамі. Сяброўак са Шлёнска не было. Таксама нікога з адміністрацыі. Цішыня царыла над багата застаўленымі сталамі. Ніякай размовы. Калі падышла рэабілітантка і запытала, ці чагосьці не хапае, дык я выказаў сваё меркаванне:

— Няўжо мы безгаспадарныя? Быццам сіротак нас пакінулі. Дзе ж наша кіраўнічка і касцёр з каўбаскамі?

У гэты момант з'явілася кіраўнічка змены Аня Шаўкала і падпаліла касцёр. Падышлі таксама Івона з Бажэнай. Кампанія зварухнулася.

— Дык, што ж, вы кавалеры, так насуха? — папракнула шэфіха.

— У мяне штосьці знойдзецца ў запасе, — адклікнуся Мірэк і падаўся ў гасцініцу. — У нас таксама штосьці знойдзецца, — сказала Марыя.

Прадбачвалася даўжэйшая сяброўская бяседа...

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## Яны дапамагаюць сініцам і снегірам

Зараз у апошнія дні лютага насталі лютыя маразы. Нашы крылатыя сябры зімой у патрэбе. Ім нялёгка знайсці сабе каларыйны корм. Не забылі пра іх некаторыя дарослыя жыхары Новага Ляўкова, Новін і Плянты Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Яны жылі і жывуць на вёсцы, зімой дапамагаюць птушкам — як былі дзецьмі, так і цяпер. У краме ў Плянце пачалі прадаваць нясоленую марожаную саланіну, якую хутка раскупілі. Не было ў продажы, як гэта бывала ў папярэднія гады, тлушчавых шарыкаў з розным насеннем, у тым ліку сланечніку і ільну.

Насталі марозныя дні і ночы. Птушкі хутка знайшлі свае кармушкі на дрэвах у агародчыках. Корм быў адмысловы. На панадворках з'явіліся найперш зухаватыя вераб'і і неўзабаве адважнейшыя сініцы (sikorki). Снегіры і амялушкі прыляцелі пад сам вечар. Ні варон, ні сарок я не бачыў. Не бачыў іх і ў мінулым годзе. Нешта ў прыродзе памянялася. Ды і людзі менш цікавяцца навакольнай прыродай, а ўжо зімой дык зусім мала.

Варта дадаць, што, між іншым, тры птушыныя сталовыя «адкрыла» наша пастаянная чытачка Вера Клімюк з Плянты: адну на грушы і дзве на яблыні. Падкрадаўся рыжы суседаў кот, але не змог дастаць сала.

Вады не трэба было выносіць, у мароз хутка замярзае. Не ўсюды замерзлі Нарва і Нараўка і іх прытокі ды вадасховішча Семяноўка.

## Крытыка дапамагла

У кастрычніку мінулага года я на старонках штотыднёвіка „Ніва” пісаў пра густыя зараснікі на абочынах павятовай асфальтавай дарогі ды ў равах у вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. „Выпаўзлі” яны да асфальтавай маставой і галінамі чапляліся, між іншым, едучых веласіпедыстаў. Пісаў я, што праходзіць месяц за месяцам, а зруху ў гэтай справе ніякага. Праўленне павятовых дарог у Гайнаўцы абяцала тады, што зоймецца добраўпарадкаваннем абочын дарогі, якая бяжыць паралельна з чыгункай з Гайнаўкі ў Семяноўку пад вясну 2018 года. І слова стрымала.

Дарожныя службы прыехалі ў Плянту 20 лютага гэтага года. Работы мелі, як кажуць, поўныя рукі. Шмат дзён голасна працавалі дзве механічныя пілы. Дробнае голле работнікі згрэблі і спалілі на кастры.

## Новы бар

Па вуліцы Новай у Нараўцы Гайнаўскага павета адкрылі прыгожы новы бар. Працуе ён цэлы тыдзень, з тым, што па суботах і нядзелях ад гадзіны 12-й. Вядуць яго дзве маладыя ветлівыя жанчыны. У бары пяць столікаў на дваццаць месцаў. Светла тут (чатыры вялікія вокны), цёпла і прытульна. На сцяне вісяць вышываныя кухонныя макаткі і ручнічкі з народнай беларускай вышыўкай. Адчуваеш сябе, як у родным доме.

Абеды тут з дзвюх страў, за 17 злотых. Можна есці на месцы або ўзяць з сабою на вынас. 2 і 3 сакавіка г.г. дадому я браў суп з грыбоў ды смажаную рыбу або смажанае мяса з бульбай (можна было з рысам).

Варта дадаць, што зараз, зімой, суп возяць у тэрмасах, між іншым, лясным работнікам Надлясніцтва Броўск. Суп возяць і служачым, якія сцерагуць нашу дзяржаўную мяжу ўдзень і ноччу. У бары можна купіць свежыя салодкія хлебабулачныя вырабы. 2 сакавіка г.г. я купіў вельмі смачны сырнік г.зв. дамашняй выпечкі. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі





Дыктоўка ў праваслаўнай школе і ў бельскай «тройцы» Фота Ганны Кандрацюк

# Фіндус з'язджае!

Вы чакалі... чарговай гісторыі пра коціка-псоціка Фіндуса і яго гаспадара Пэтсана?

Мы ведаем, што тыя, якія раней ужо пазнаёміліся з гэтым цыклам, не маглі дачакацца выхаду новай кніжкі. Гэта агульнасусветны трэнд. Кнігі Свэна Нурдквіста ўжо сталі класікай сусветнай дзіцячай літаратуры, гісторыі пра ката і самотнага халасцяка Пэтсана, перакладзены на больш як 30 моў свету.

Беларускамоўны чытач мае шчасце! Чарговая гісторыя, якую прапануем сёння — адзіная ў сваім родзе. Першапачаткова яна напісана для тэатра і на яе аснове ўзнік спектакль у тэатры «Resenair» у Стакгольме. Яна вясёлая і неўтаймаваная, як характар Фіндуса, які ў гэты раз захацеў быць самастойным...

А ўсё пачалося з ціхай сваркі.




Пэтсан стаміўся ад таго, што коцік пачынае скакаць у сваім ложку а чацвёртай раніцы. Стары папярэдзіў Фіндуса, што калі той не перастане яго будзіць, то ім давядзецца перанесці ложак Фіндуса са спальні ў якое-небудзь іншае месца. Спачатку Фіндусу вельмі спадабалася гэтая ідэя: ён жа зможа скакаць у ложку колькі заўгодна. Для ката абсталююць старую прыбіральню, якая пахіленая стаіць на панадворку. У сваім доме коцік ладзіць уваходзіны з пачастункам. Гаспадар выпытвае, каго ж ён запросіць на гасціну:

*— Ты запрасіў іншага ката? — паспрабаваў выведаць Пэтсан.*

*— Не-а, — адказаў Фіндус.*

*— Тады, можа курэй? — не здаваўся Пэтсан.*

*— Курэй? Ты што, здурнеў, Пэтсан? Яны б увесь час балбаталі ды паелі б усе аладкі самі!*

*Пэтсан працягваў гадаць, пакуль не напёк аладак, але і так не адгадаў, што за госць такі...*

У кніжцы з'яўляецца ліс, але ж вядома — не яго запрасіў у госці Фіндус. Сам коцік, ужо пасля адной самастойнай ночы, разумее важную рэч. Аднаму не надта весела жыць! Яшчэ больш па сяброўстве, хай і надта стыхійным, сумуе гаспадар...

Пра ўсе хітрыкі і інтрыгі, якія даводзяць да вышэйназванай высновы, прачытаеце ў чарговай кніжцы Свена Нурдквіста «Фіндус з'язджае». Яна выдадзена ў 2017 годзе ў падсерыі «Каляровы ровар» і ў перакладзе Надзеі Кандрусевіч.

Кніжка «Фіндус з'язджае» гэта чарговы падарунак ад Саюза беларускіх пісьменнікаў і яе можна выйграць у конкурсах «Зоркі».

*(гак)*

Якуб Колас

## Вясна

Ідзе вясна ўжо, дзякуй Богу!
Згінуў снег з сырой зямлі;
Папсавала гразь дарогу,
Переваліы загулі.

Сонца грэе, прыпякае;
Лёд на рэчцы затрашчаў.
Цёплы вецер павявае,
Хмар дажджлівых
нам прыгнаў.

Вось і бусел паказаўся,
Гусі дзікія крычаць,
Шпак на дубе расспяваўся,
Жураўлі ужо ляцяць.

І зіма, як дым, прапала!
Зелянее луг, ралля.
Як ад болю, ачуняла
Наша родная зямля.

## УВАГА КОНКУРС! № 10-18

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 18 сакавіка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Не на дрэве, не ў кустах
пасяліўся шэры птах –
ён жыве ў полі,
дзе прастору болей.
К сонцу падымаецца –
песняй заліваецца.
Ж........**

**(В. Жуковіч)**

**Адказ на загадку № 6-2018: вавёрка.**

**Узнагароды: кніжку-маляванку С.Наркевіча «Неверагодныя здарэнні на неверагоднай планеце» выйграў Давід Бура з Бельска-Падляшскага; кніжку Р. Барадуліна «Азбука. Вясёлы вулей» — Юлія Лучай з бельскай «тройкі»; турыстычны даведнік па Белавежскай пушчы — Якуб Аўярчук з Арэшкава; кніжку Д. Вашкевіч «Бабаўняная дзяўчынка» — Марыя Варанчук з Арэшкава; кніжку С. Нурдквіста «Калядная каша» — Шыман Івановіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку; каляндар «Не маўчы па-беларуску» — Дар'я Чарняўская з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# «Бельскому Гостінцю» — 20 гадоў!

У Дзень роднай мовы стваральнікі і першыя рэдактары прыгадалі гісторыю часопіса «Бельскі Гостінэць». У гэтым годзе святкуем 20-годдзе часопіса. Сустрэча адбылася ў бельскай «тройцы». Невыпадкова, бо пачаткі часопіса моцна пераплецены з атмасферай і падзеямі школы. Сам Дарафей Фіёнік у той час працаваў настаўнікам краязнаўства, а першыя нумары адбіваліся на школьным ксераксе. Раней, з 1995 года праводзіліся Сустрэчы «Зоркі», у якіх надта інтэнсіўна і энтузіястычна ўдзельнічалі многія вучні і настаўнікі «тройкі»: Валянціна Бабулевіч, Аліна Ваўранюк, Дарафей Фіёнік, Алег Кабзар. Сам дырэктар Васіль Ляшчынскі асабіста клапаціўся, каб як найбольшая колькасць яго вучняў патрапіла на нашы майстар-класы. З гэтых паездак выспела шмат наватарскіх ідэй, між іншым, мода на пісанне ў «Зорку» і школьнае кабарэ «Куль». Невыпадкова першая прэзентацыя часопіса «Бельскі Гостінэць» адбылася ў Нарве, у час XII Сустрэч «Зоркі». Пра гэта напісала тадышняя карэспандэнтка і тэатральная зорка Жанэта Роля: Мілым сюрпрызам на аўторкавай вечарыне была прэзентацыя новага краязнаўча-культурнага часопіса «Бельскі Гостінэць». Газета выдаецца ў рамках праграмы «Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча». Часопіс цікавы не толькі зместам. У ім друкуюцца артыкулы на беларускай і польскай мовах, а таксама на падляшскім дыялекце. Галоўным рэдактарам «Бельскага Гостінця» з'яўляецца Дарафей Фіёнік, сакратаром — Валянціна Бабулевіч, а журналістамі — нашы сябры: Міхась Сцепанюк, Ірэна Кулік, Давід Рошчанка і Марк Хмур (тэхнічны рэдактар).



У часопісе шмат матэрыялу для моладзі і дарослых. Удзельнікі Сустрэч «Зоркі» атрымалі першы нумар газеты. Застаецца толькі пажадаць рэдакцыі верных чытачоў і цікавых артыкулаў. (e-zorka.pl- XII-1997)

Пажаданні, пра што ведае кожны малы і стары жыхар Бельска, збыліся і нават перайшлі ўсялякія спадзяванні пачынальнікаў. На сустрэчы прэзентаваўся 56 нумар часопіса, прыаздоблены дзіцячым здымкам Яраслава Кастыцэвіча і яго братоў Вячаслава і Ігара. Здымак узнік у 1899 годзе ў фатаграфічным атэлье Аляксандра Юрашайціса-Мілашайціса ў Бельску-Падляшскім. Наапошняй старонцы таксама віднее гістарычны здымак з 1937 года. На ім жыхары парафіі Клeнікі вітаюць архіепіскапа гродзенска-навагрудскага Саву (Саветава). Часавы памост, калі ідзе пра фатаграфічны матэрыял, ствараe сучасны здымак этна-гурту «Жэмэрва», які з'яўляецца візітнай картачкай Музея Малой Айчыны ў Студзіводах. Змест 56 нумара часопіса — гэта радасць і натхненне для краязнаўцаў, аматараў гісторыі Бельска і цэлага памежжа. Большасць артыкулаў мае навуковы характар. Тут публікуюць свае доследы вядомыя прафесары і аўтарытэты. Часопіс на трывала зросся з культурным жыццём Бельска-Падляшскага.



За 20 гадоў дзейнасці часопіс стаў цудоўнай школай беларускай гісторыі, этнаграфіі і журналістыкі. Як адзначылі прысутныя на сустрэчы журналісты Міхась Сцепанюк, Тамаш Суліма, Давід Гайко, вандроўкі і пошукі з Дарафеем Фіёнікам, паўплывалі на іх жыццёвыя і прафесійныя выбары. А ветэраны — у асобах Дарафея Фіёніка, Валянціны Бабулевіч і ніжэйпадпісанай, выявілі радасць з простай прычыны — за дваццаць гадоў ніхто не змяніўся і ўсе засталіся такімі, якімі былі.

**Ганна Кандрацюк**

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Воўк і асёл

Галодны воўк схапіў тоўстага асла і хацеў яго з'есці. Перад немінучай смерцю бедны асёл папрасіў у ваўка:

— Умаляю цябе, шаноўны воўк, раз ужо Бог прызначыў мяне на тваё харчаванне, годзе, з'еш мяне. Але перад смерцю прашу, выканай маю апошнюю волю!

— Ну, хутчэй, давай сваю волю! — загарэўся воўк.

— У мяне параненая нага. Застраміў я ў капыта іржавы цвік. Калі ласка, дастань яго, шаноўны воўк, хоць на міг аблегчы мае пакуты!

— Гатова! — адказаў у спеху воўк.

Ён падышоў да асла ззаду, каб выцягнуць з капыта цвік, а тым часам асёл з усяе сілы ўдарыў яго ў морду, якая разлялецалася на кускі.

Завыў горка галодны воўк і аблаяў сам сябе:

— Бог справядліва пакараў мяне за здраду характару! Вось, усё жыццё я быў крыважэрным разніком, а тут пры асле захацеў стаць добрым ветэрынарам!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Дар'я НОВІК
ПШ у Міхалове

## Зіма

Зіма марозная,
Зіма строгая.
Але толькі тады
Магу зляпіць снегавіка,
Катацца на санках
І цёплую какаву піць...

Рыгор Барадулін

## Азбука. Вясёлы вулей

* * *
Ехалі
вясёла
сані,
елі ў далеч
рысакі.
Е чарнела
за лясамі,
быццам елка
ў тры сукі.
Літары ўсе
трэба знаць,
каб Евангелле
чытаць!
* * *
Ёрш сагрэць
спрабуе лёд.
Апякае палец ёд.

# Польска-беларуская крыжаванка № 10-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 6-2018:**
Фен, смех, коска, тут, порт, пончык, ліра, гіт, факт, Іртыш. Факс, ла, пік, порт, ікона, харч, тыгр, мат, кіт, ты, хутар.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Клаўдзія Пятроўская, Магда Сарнацкая, Гжэгаж Вуйтовіч** з Бельска-Падляшскага, **Оля Хіліманюк, Аліўка Жэпко** з Нарвы, **Зузя Кардзюкевіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Караліна Харыла, Дагмара Краўчук** з Міхалова, **Аляксандра Якімюк** з ПШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ręka / Kierownica | | | | Pistolet / Bryczka | | | | | | |
| | | | | Marzenie | Ikar | | Usta | Krąg | | Malina |
| Kosmita | | | | | | | Łyżwy / Kum | | | |
| | | Ala / Piana | | | | Tak / Suma | Aha | | | |
| Bierz | Parasol | | | | | | | | | |
| Białoruś | | | | | | | | | | |
| Brat | Nie | | | | | | | | | |
| | | | | Nowa informacja | | | | | | |

№ 10 [11-03-2018]

# XIX Конкурс беларускай гавэнды

**Займальна расказвалі вучні пачатковых, гімназічных і звышгімназічных школ падчас XIX выпуску Конкурсу беларускай гавэнды «Гайнаўка-2018», які 23 лютага адбыўся ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Вучні распавядалі пра здарэнні з жыцця і вучобы ў школе. У расказчыкаў была прага пазмагацца за перамогу і распавесці па-беларуску перад публікай, якую складалі ўдзельнікі конкурсу, настаўнікі, бацькі і шматлікія белліцэісты. Выступоўцам падабаецца Конкурс беларускай гавэнды, паколькі могуць праявіць свае эмоцыі і паказаць здольнасці. Вучням цікавы таксама ўзнагароды ад спонсараў конкурсу.**

Конкурс беларускай гавэнды адкрылі яго арганізатар, настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі і дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Ігар Лукашук. Прывіталі яны вучняў і настаўнікаў беларускай мовы са школ, якія прыступілі да конкурсу расказчыкаў, і сабраную публіку.

— Конкурс беларускай гавэнды «Гайнаўка-2018» гэта перш за ўсё сустрэча ў вялікай сям'і, падчас якой вучні выступаюць з беларускім словам і паказваюць свае здольнасці і ўмеласці, — заявіў дырэктар школы Ігар Лукашук.

Настаўнік Ян Карчэўскі, старшыня Аб'яднання «Наша школа», якое з'яўляецца суарганізатарам конкурсу беларускай гавэнды, пералічыў спонсараў конкурсу — Павятовае староства ў Гайнаўцы, Гарадскую ўправу ў Гайнаўцы, Культурны цэнтр Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве і Інтэрнэтную бібліятэку «kamunikat.org».

— Арганізуючы конкурс беларускай гавэнды, мы стараемся зацікавіць вучняў беларускім словам і беларускай культурай. Вучні ахвотна расказваюць па-беларуску. Узровень сёлетніх выступаў высокі, а расказчыкі зацікавілі публіку сваімі аповедамі, — сказаў Ян Карчэўскі, які падрыхтаваў да конкурсу, між іншым, Наталлю Васько і Крыстыяна Паскробку, якія выступілі з гумарыстычнымі расказамі.

Мерапрыемства ўмела вяла белліцэістка Дамініка Пуц. У арганізацыі конкурсу дапамагалі белліцэісты. Аповеды многіх расказчыкаў былі арыгінальнымі і непаўторнымі, а частка вучняў выступіла ў адмысловых касцюмах і з арыгінальнымі рэквізітамі. Настаўнікі стараліся, каб расказы вучняў былі займальнымі, а іх змест падыходзіў да ўзросту і характару расказчыкаў. Алівія Рэпка супольна са сваёй настаўніцай Нінай Абрамюк падабрала тэкст пра прагнага багацея, а займальны яе аповед спрычыніўся да заваявання Алівіяй першага месца сярод вучняў пачатковых школ.

— Алівія гэта наша здольная расказчыца і дэкламатарка. Я рада яе сённяшняму выступу. Сёння са мной прыехалі перш за ўсё вучні, якія першы раз будуць распавядаць і я чакаю іх выступленняў. Расказы падбіраю вучням залежна ад іх характару і зацікаўленняў, — заявіла настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк з Нарвы.

Пазней аказалася, што першае месца сярод гімназістаў заняў Уладзіслаў Кутузаў з Гімназіі ў Нарве. Раней вучыўся ён ва Украіне. Пераехаўшы на пастаяннае жыхарства ў Польшчу, вучыцца і займаецца ў тэатральным гуртку ў нарваўскай школе. У час конкурсу гавэнды паказаў, што ўмее з выкарыстаннем сваіх акцёрскіх здольнасцей распавядаць тэкст на беларускай мове.

— Распавядаць рашаюцца вучні, у якіх ёсць здольнасці да такіх выказванняў. Я звяртаю ўвагу, каб вучні правільна вымаўлялі ўсе словы і трымалі адпаведны тэмп аповеду. Вучні павінны распавядаць пераканаўча і трымаць кантакт з публікай, — сказала настаўніца беларускай мовы ў арэшкаўскай школе Ірэна Герасімюк, якой вучаніца Віялета Смолюк у конкурсе заняла трэцяе месца.

— Барташ Яканюк з нашай школы многа разоў займаў пераможныя месцы, але сёлета не змог выступіць. Ужо ў мінулым годзе перамогі дабіўся Юліян Раманюк. Сёлета таксама добра падрыхтаваўся да выступу. Будзем чакаць рашэння журы, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе № 4 у Гайнаўцы Беата Кендысь.



Наталля Васько



Малгажата Галёнка



Уладзіслаў Кутузаў




Марта Хілецкая

— Я сказаў па-беларуску, як навучыўся і цікава мне цяпер паслухаць выказванні іншых вучняў, — заявіў Юлек Раманюк, які заняў другое месца сярод вучняў пачатковых школ. Першае месца ў гэтай катэгорыі заняла яшчэ Марта Хілецкая са Школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы.

— Я гаварыла пра *дыпламацыю* на такой мове, як гавораць мая бабуля і дзядуля ў Белавежы. Крыху так размаўляю з імі, але яшчэ не навучылася свабодна выказвацца, — заявіла Марта Хілецкая.

Яе настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская заявіла, што запрапанавала Марце расказ, які напісала бібліятэкарка з Ласінкі Аліцыя Станько, паколькі белавежскі дыялект падобны да ласінскага. Юлія Бармута, таксама з Белавежы, заняла другое месца.

— Я рада расказу Марты, якая любіць выступаць на сцэне. Пад наглядам настаўніцы Анджаліны Масальскай дачка разгортвае свае здольнасці, — сказала мама Марты, Галіна Хілецкая. Паслухаць аповед дачкі прыехала з Белавежы таксама мама Юлі.




Алівія Рэпка

— Я ў конкурсе прымаў удзел многа разоў. Сёння я расказваў пра тое, як бывае з цёшчай. Люблю распавядаць з гумарам. Мая настаўніца беларускай мовы Анна Кандрацюк падбірае мне гумарыстычныя расказы, — заявіў Тамаш Харкевіч з Пачатковай школы ў Нараўцы, які заняў другое месца ў сваёй катэгорыі. Прыехаў Тамаш на конкурс разам з віцэ-дырэктар школы Ліляй Тарасевіч, якая як настаўніца беларускай мовы раней таксама паспяхова рыхтавала сваіх вучняў да ўдзелу ў конкурсе беларускай гавэнды.

— Я ўжо тут чарговы раз і мне падабаецца распавядаць па-беларуску і слухаць расказы іншых, а тут яшчэ добрая атмасфера, — заявіла Ніна Марціновіч з Пачатковай школы ў Міхалове, якая таксама заняла другое месца.

Настаўніца беларускай мовы ў Міхалове Эмілія Грыка сказала, што ў яе школе многа ахвотных вучыцца беларускай мове і прымаць удзел у конкурсах, а выезд на конкурс гавэнды ў Гайнаўку гэта для іх асаблівы атракцыён. Трэція месцы занялі Эрыка Іванова і Караліна Куклінская з Міхалова і Юлія Ахрымюк з Пачатковай школы ў Чыжах.

— У нашай школе ў Чыжах шмат ахвотных вучыцца беларускай мове, многа было ахвотных расказваць па-беларуску і таму нас многа прыехала на конкурс гавэнды. Вучні рады, што выязджаюць на беларускае мерапрыемства і выступаюць перад публікай, — сказала настаўніца беларускай мовы Анна Лаеўская, якая ўжо многа разоў рыхтавала чыжоўскіх вучняў да конкурсу.

Трэцяе месца камісія прызначыла таксама Мартыне Кердалевіч з Пачатоковай школы № 3 у Гайнаўцы, якая старалася цэлы час трымаць кантакт з публікай. Настаўніца беларускай мовы Мартыны, Марыя Крук, заявіла, што дзеля поспеху, апрача здольнасці, неабходная ахвота развучыць доўгія тэксты. Сярод гімназістаў побач Уладзіслава Кутузава першае месца заняла Малгажата Галёнка з Гайнаўскай белгімназіі. Другое месца камісія прысвоіла Якубу Казіміруку таксама з Гайнаўскай белгімназіі. Трэцяе месца заняла Дар'я Місяюк з Гайнаўскай белгімназіі і Юлія Шклярэўская з Гімназіі ў Нарве.

— «Два светы настаўніцы» — гэта аповед з гумарам і з такімі расказамі я стараюся выступаць падчас конкурсу беларускай гавэнды. Відаць было, што расказ спадабаўся публіцы, а цяпер мой аповед будзе ацэньваць конкурсная камісія, — заявіла гайнаўская белліцэістка Наталля Васько.

— Я люблю распавядаць і выступаць у тэатральных прадстаўленнях. Раней да многіх выступаў рыхтавала мяне мая настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк, а зараз рыхтуе Ян Карчэўскі. Вынайшоў мне аповед «Самагон», які выклікае многа смеху і дазваляе трымаць добры кантакт з публікай, — заявіў белліцэіст Крыстыян Паскробка.

Пасля падвядзення вынікаў конкурсу аказалася, што першае месца сярод ліцэістаў заняла белліцэістка Наталля Васько, а другое месца камісія прызначыла белліцэісту Крыстыяну Паскробку. У журы конкурсу працавалі тры выпускніцы беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта — метадыст па навучанні беларускай мовы, белліцэйская настаўніца беларускай мовы Іаланта Грыгарук, белліцэйская настаўніца і бібліятэкарка Ірэна Ігнатовіч і белмузейная бібліятэкарка Віялета Андрасюк.

— Сёлета вучні распавядалі на высокім узроўні і мала было слабейшых расказаў. Аповеды былі ўмела падабраны да ўзросту вучняў і іх характараў. Дэкламацыю можа вывучыць нават вучань, у якога меншыя здольнасці да мастацкага чытання, а са здольнасцямі да расказвання трэба нарадзіцца і іх разгортваць. Вучні лічаць конкурс расказчыкаў цяжкім, але падчас яго могуць праявіць многа ўмеласцей, — сказала член журы, настаўніца Іаланта Грыгарук.

Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі невялікія падарункі, а пераможцы — дыпломы і вартасныя ўзнагароды. Вялікая колькасць узнагароджаных расказчыкаў таксама сведчыла аб высокім узроўні конкурсу. Конкурс беларускай гавэнды быў таксама добрай нагодай, каб паказаць яе ўдзельнікам Гайнаўскі белліцэй, у які расказчыкі маглі б пазней паступіць. Канешне, на адукацыю ў Гайнаўскі белліцэй прыцягваў таксама беларускі калектыў «Знічка», які выступіў з кароткім, але займальным канцэртам перад канкурсантамі. У школьнай сталовай вучні, настаўнікі і апекуны выступоўцаў падмацаваліся «максіабедам», як назваў яго арганізатар конкурсу Ян Карчэўскі.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**






**Люба САКОВІЧ**
Юшкаў Груд - Міхалова

## Успаміны

Мой тата Кастусь называўся,
Маму Манькай звалі.
Каб у хаце ўсё было,
Бацькі пра гэта дбалі.

Тата дроў загатовіць
І печку напаліць.
Калі ў хаце цяпло,
Мама есці варыць.

Яна наварыць на пліце,
У печы хлеба напячэ.
Яду на стол стаўляе
І нас есці запрашае.

«Ежце, дзеткі, падрастайце,
Добры сэрцы людзям майце.
І спявайце, і працуйце,
Пра бацькоў вы не забудзьце!»

Нарадзіла нас чацвёра:
Тры дачкі і сынок.
Падраслі і разышліся
Кожны ў свой бок.

Сын астаўся гаспадаром
У сваёй роднай хаце.
І таму прыйшлося яму
Бацькоў даглядаці.

Да старасці дагледаў,
У «дом старцаў» не аддаў.
Каб такога догляду
Ад сваіх дзетак дачакаў!

Цяпер Кастусь з Марыяй
У Ялоўцы на могілках спачываюць.
Над імі святары вечную
Памяць спяваюць.

Няхай ім зямля
Лёгкім пухам будзе.
Мы іх добрага сэрца
Ніколі не забудзем.

## Мая доля

Выйшла замуж маладая,
За таго, каго любіла.
Але смерць спасцігла мужа
Ды мяне змяніла.

Гаспадарка вялікая
Ды малыя дзеці.
Па начах не спала,
Адкуль грошы на ўсё меці.

У хлеў зайду — плачу.
У царкву пайду — плачу.
За горкімі слязамі
Я людзей не бачу.

«Перастаць ужо плакаць! —
Свякруха сказала. —
У цябе дзеці малыя
І абавязкаў нямала.

Яго ты не падымеш,
Ён там мусіць ляжаці.
Асталася ўдавою,
Мусіш дзяцей гадаваці.

Дзецям патрэбна маці,
Адзенне задбаці,
Выправіць у школу,
І каб есці мела што даці!»

Доўга сумавала,
Мужа ўспамінала.
Цяжка працавала,
Дзяцей у школу выпраўляла.

Дзеці добра вучыліся,
Студыі пакончалі,
Добрыя работы
Яны падаставалі.

Мяне адведваюць,
Калі маюць час.
«Жыві ты, мама, доўга,
Але не дакучай для нас!»

А я, няшчасная такая,
У вёсцы тут жыву.
Прыедзьце, адведайце мяне,
Я Вас міла прыму.

## Незабытая мясціна

Наша вёска Юшкаў Груд.
Дзе б ты не жыў,
Найлепей быць тут.
Два ўзгоркі яна мае,
Рэчка Юшка праплывае.
У альшыне салавей спявае —
Ён да сну нас укладае.
І зязюля тут куе,
А ўначы сава гудзе.
Буслы гнёзды свае маюць,
Кожну вясну прылятаюць.
Лес зялёны тут шуміць.
Цераз вёску шаша бяжыць.
Ёсць тут магазін, на ўзгорку царква,
Асяродак здароўя і тут твая судзьба:
Калі цябе тут занядбаюць,
То і хутка пахаваюць.
Скажуць: «Лёс яго такі,
Том ён мусіў умярці!»
Усе здаровы пражывайце,
Адзін аднаму зла не прычыняйце...
Ганарымся мы кругом
Сваёй вёскай —
Юшкавым Грудом!

## Родная мова

Вы, людзі, добра знайце,
Сваёй мовы не забывайце.
Бо вельмі цяжка жыці,
Калі роднай мовай не гаварыці.

Мова так як родна маці,
Яе трэба шанаваці.
Калі мову забываеш,
Гонару сябе пазбаўляеш.

Не забудзь, што ты — тутэйшы,
Сваю мову маеш.
Да бацькоў і да суседзяў
Ёю прамаўляеш.

Спявай песні беларускія,
І танцуй як трэба.
Няхай усё нясецца
Пад самое неба.

А культуру беларускую
Знае ўвесь свет.
Не забудзь яе ніколі,
Ступай у яе след.

## Падслухала

Я рана ўстала.
Салавей спяваў.
А я пачула як сусед
Маю куму да граху намаўляў.

«Ой, суседку мілы,
Я цябе прашу,
Не кажы нікому,
Як я з табою награшу!»

«А ці гэта грэх?
Вып'ем з табой «брудзя».
Нават Бог нам даруе,
Як нам добра будзе!»

Няхай гэтак будзе.
Суседа слухаць трэба.
Можа, па-суседску
Будзе яшчэ іншая патрэба.

Пайшлі яны за клуню.
Салавей спяваў.
Сусед маю куму
Моцна да сябе прытуляў.

«Ой, суседку мілы,
Я не маю сілы
Табе супраціўляцца.
Хачу з табой сустракацца.

Ой, суседку мілы,
Я табе кажу,
Заўтра да ўсходу сонца
Я зноў сюды прыйду...»

## Святкуе Міхалова

Сёння свята ў Міхалове.
Цэлая гміна святкуе,
Бо беларускія «Фольк-сустрэчы»
У нас тут гасцюе.

Вечар харошы,
Міла пасядзець,
Паслухаць беларускіх песень
І радасць у сэрцы мець.

На сцэне музыка
Весела іграе.
Нават дзед бабу
Да сябе прытуляе.

Моладзь вакруг сцэны
Уся разам танцуе.
Яна пад сабою
Сваіх ног не чуе.

А калі забаляць ногі,
Доўга не чакай,
У Медычны цэнтр
У Міхалове спяшай.

Тут людзей лечаць
І зубы ірвуць.
Таму ў нашай гміне
Здаровыя людзі жывуць.

Усім жыхарам Міхалова
Жадаю добрага здароўя,
Каб у дастатку жылі
І праз год зноў сюды прыйшлі!

Бывайце здаровы,
Бяды не зазнайце.
І беларускай мовы
Вы не забывайце!

# Засталіся адно ўспаміны (37)

Москаўцы з Вулькай-Выганоўскай раздзяляе невялічкі прамежак дарогі. Можна сказаць, што гэта адно салэцтва. Адміністрацыйна вёскі прыналежалі да Грамадскай рады нарадовай, якая знаходзілася на чыгуначнай станцыі ў Рыгораўцах. Насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай.

У шасцідзясятыя гады было тут шмат амбітнай моладзі, якая акуратна ставілася да чытання і мастацкай самадзейнасці. Праблемай абодвух сёл быў брак святліцы. У Москаўцах працаваў бібліятэчны пункт, які змяшчаўся ў прыватнай кватэры Марыі Лук'янчук. Вяла бібліятэку Лідзія Піцэлюк. Тут і арганізаваўся мастацкі калектыў, які для моладзі стаў зборным пунктам. У бібліятэцы праводзіліся рэпетыцыі. Вялікую дапамогу самадзейнікам аказвалі валянскія настаўніцы. На другі дзень Каляд, 8 студзеня 1967 года калектыў паставіў п'есу Янкі Купалы «Прымакі». У праграме самадзейнікаў было шмат савецкіх і польскіх песень. Акампаніятарам і душой калектыву з'яўляўся музыкант Яўген Хмур. Цудоўна ён іграў і спяваў, таму славіўся ў наваколлі. Моладзь з Москаўцаў была сталымі кінаманамі, якія не прапусцілі ніводнага сеанса. Хутка наладзіў я сяброўскія кантакты. Найчасцей спаткаліся мы ў хаце Лідкі Піцэлюк у дружнай кампаніі. Запамяталіся з таго часу Валодзя Якубовіч, Сцёпа Дмітрук, Алесь Власюк, Сяржа Талочка, Грэсь Будзіла (так яго называлі), а з дзяўчат Валя і Феліцыя Мельнік. Меў я нагоду быць госцем москаўскай моладзі на традыцыйных запустах, якія ўспамінаю па сённяшні дзень. Памятаю, што ў лютым, на масленіцу, бакавыя дарогі былі нерасчышчаны. А хацелася пагуляць у вясёлай кампаніі. Затым наперакор снежным гурбам мы паспрабавалі з кінаперасоўкай дабрацца з Краснага Сяла ў Вульку-Выганоўскую. Паламаўся нам шатун у аўтамабілі. Выручый валянскі солтыс Шурка Фаміч Гаўрылюк, падсылаючы трактар. Адгуляўшы запусты, у Кляшчэлі таксама нас буксіравалі трактарам. Патэлефанаваў я ў ВПК і папрасіў аб тэхнічную дапамогу. Неўзабаве прыехалі механікі з Беластока і прывезлі запчастку. Так закончылася мая зімовая прыгода.

Пры канцы сваёй прафесійнай працы ў ВПК з Москаўцамі я звязаў свой лёс па сённяшні дзень. Прыбавіўся лік сваякоў у мяне па сястрыцы Галене і Амяльяну з Рыгораўцаў — з Валодзем і Любай Ефімчукамі ды іхнімі дочкамі Валяй і Нінкай. Гуляў я на вяселлі Валодзі Якубовіча, дваюраднага жончынага брата з Лідкай Піцэлюк (бібліятэкаркай). З гэтымі якраз нядаўна правёў размову па тэлефоне, у выніку чаго папоўніў я свае веды аб Москаўцах пяцідзесяціпяцігадовай даўнасці. Швагер Валодзя Якубовіч быў маршалкам на вяселлі ў маёй старэйшай дачкі Ірэны, а Лідка — сванькай. Пазней мы гулялі ў іх на вяселлі — у Юркі і Басі. Зараз Якубовічы жывуць у Бельску-Падляшскім. Займаюцца агародніцтвам. А вось як Лідка ўспамінае свае дзявоцтва і школьныя гады:

— Першапачатковая ў Вульцы кіраўніком школы быў Кастусь Гаўрылюк. Пасля кіраўніцтва пераняла Оля Карпюк. Апрача Марысі Хрэн, Ніны Васілеўскай, Валі Жменькі і Надзі Шатыловіч працавала Сафія Шапель. У Вульцы настаўніцы павыходзілі замуж. Ніна Васілеўская выйшла замуж за Юрку Астапчука. Зараз жывуць у Бельску-Падляшскім. Надзя Шатыловіч выйшла за Алеську Власюка і яны таксама пражываюць у Бельску. Валя Жменька выйшла замуж за Сяржу Талочку. Каротка трывала іхняе сужонства. Разышліся. Валя выехала ў ЗША і там засталася на пастаяннае жыхарства. Сяржа памёр. Не ведаю, які лёс раздзялілі Марыся з Сафіяй, — гаворыць мая субяседніца. — Школе ў Вульцы-Выганоўскай 23 чэрвеня 1966 года было прысвоена імя Мікалая Кужыльнага, героя Савецкага Саюза, які загінуў у бітве за Вульку-Выганоўскую ў час апошняй вайны. У мерапрыемстве ўдзельнічалі маці і брат загінуўшага героя. Зараз будынак школы купіла сужонства з Бельска-Падляшскага, уладальнікі фірмы «Архелан».

Тры гады таму на пляцоўцы даўнейшай школы ў Вульцы я ўдзельнічаў на беларускім фэсце «І тут жывуць людзі», якога спонсарамі было сужонства Бужынскіх, цяперашніх уладальнікаў маёмасці. Я мог адно паўспамінаць шасцідзясятыя гады, калі арганізаваў і гэтым будынку кінасеансы. А здаецца, што гэта было быццам учора.

**Уладзімір СІДАРУК**




„Ніва" ўжо неаднойчы пісала пра навучальныя ўстановы ў Беларусі, якія, нягледзячы на „неперспектыўнасць" беларускай мовы, працягваюць навучаць беларусаў па-беларуску. Такіх школ і дзіцячых садкоў (прадшколляў) не вельмі многа, таму яны вартыя таго, каб пра іх распавесці, бо з'яўляюцца прыкладам захавання беларушчыны падчас чарговай спробы яе выкаранення.

Адной з такіх навучальных устаноў з'яўляецца гімназія № 2 у горадзе Барысаве, што знаходзіцца ў Мінскай вобласці. Сайт гімназіі месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://belgimn2.by** і выглядае даволі прасценька. „Дзяржаўная ўстанова адукацыі „Беларускамоўная гімназія № 2 г. Барысава" — кідаецца ў вочы наведвальніку сайта адразу, як ён перавядзе іх з афіцыйнага герба Рэспублікі Беларусь, змешчанага ў верхнім левым вугле цэлага выяўлення. „У 1991 годзе ў міжрэччы рэк Схі і Бярэзіны ў старой частцы горада Барысава ўступіла ў строй новая школа — гімназія. У 1992 годзе яна прыняла статус беларускай гімназіі № 2. У 1997 годзе гімназія прайшла дзяржаўную атэстацыю як установа новага тыпу. У 2006 і 2012 гадах адбылася акрэдытацыя гімназіі. Кожны год 100% выпускнікоў працягваюць навучанне ва ўстановах вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта.

Выйсці на іншыя рубрыкі гімназічнага партала месціцца ўверсе і з левага боку. Аднак там не абышлося без арыгінальнасці, прычым не з лепшага боку. Так, рубрыка „Навіны", выйсце на якую знаходзіцца ўверсе цэлага выяўлення, зроблена ў выглядзе старонак-спасылак на архівы за бягучы і папярэднія гады. Праўда, калі клікнуць на іх, то адкрываецца звычайная старонка сайта з цікавымі тэкстамі і фотааздабленнямі.

Часцяком беларускамоўныя навучальныя ўстановы неяк не стараюцца засяродзіць увагу на сваёй беларускамоўнасці. З-за чаго такая сціпласць, невядома. У той жа час барысаўская гімназія напрост кажа пра неабходнасць ведання роднай мовы, прыводзячы крылатыя словы Францішка Багушэвіча. У рубрыцы „Пра гімназію" знаходзіцца старонка „Не пакідайце мовы сваёй беларускай, каб не ўмёрлі". Праўда, уласна пра мову там не так многа, бо на старонцы толькі адзіны тэкст-роздум былых навучэнцаў аб гадах гімназічнага навучання. Разам з тым ён дае магчымасць уявіць, наколькі добра навучаюць у дадзенай гімназіі любові да беларускага слова. „З замілаваннем глядзім на вучняў-першакласнікаў... Калісьці і мы рабілі свае першыя крокі пад пільным наглядам сваіх настаўнікаў. Яны давалі адказы на ўсе нашы дзіцячыя пытанні і прывівалі любоў і павагу да роднай мовы", — гаворыцца ў тэксце ад трох былых выпускнікоў гімназіі, а потым і Белдзяржуніверсітэта.

Хацелася б скончыць артыкул пра барысаўскую гімназію словамі надзеі, што яна дапамагае распаўсюду беларускага слова на той тэрыторыі, але рэчаіснасць кажа пра іншае. „Беларускамоўных жыхароў у Барысаве мала", — сцвярджаецца ў адным з артыкулаў на сайце http://barysau.by, дзе распавядаецца пра намаганні мясцовага грамадскага актывіста, юрыста Алега Мацкевіча пашырыць візуальную прысутнасць беларускай мовы ў жыцці горада. „Беларуская [мова] мала каго хвалюе, ёй аддадзена невялічкая прастора-гета ў паасобных школах, дзе мерапрыемствы адбываюцца збольшага фармальна і часта зацыкленыя на народнай творчасці, мала цікавай сучаснаму чалавеку", — адзначаецца ў артыкуле.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА



## Падзеі і асобы БНР

# 8 сакавіка — 90 гадоў з дня смерці Пётры Крэчаўскага

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, паэт, гісторык, старшыня Рады БНР Пётра Крэчаўскі нарадзіўся 7 жніўня 1879 г. у вёсцы Дубна (сучасны Мастоўскі раён). Гэта ўстанавіла гісторык Лена Глагоўская. У гістарычных крыніцах адзначаецца таксама, што ён быў сынам вясковага дзяка Антона Крачэўскага, які служыў у адным з праваслаўных прыходаў у Кобрынскім павеце Гарадзенскай губерні. Цікава, што і яго прозвішча ў розных крыніцах пішацца па-рознаму: у адных — Крэчаўскі, у іншых — Крачэўскі. Біяграфія выдатнага дзеяча шырокаму колу мала вядомая, энцыклапедыі і даведнікі падаюць дастаткова скупыя звесткі пра яго.

Пётра Крэчаўскі атрымаў пачатковую адукацыю ў Верхалескай школе Кобрынскага павета, затым вучыўся ў Жыровіцкай духоўнай вучэльні. Пасля паступіў у Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, якую скончыў у 1902 г. Нейкі час настаўнічаў у Беластоцкім і Ваўкавыскім паветах. У 1909-1914 гг. працаваў у Віленскім дзяржаўным банку. Перад Першай сусветнай вайной працаваў настаўнікам на Беласточчыне, у Ялоўцы. З 1914 г. быў на вайсковай службе. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у Расейскай імперыі стаў старшынёй Барысаўскага савета салдацкіх і рабочых дэпутатаў. Быў дэлегатам Усебеларускага з'езда 1917 г. У 1918 г. увайшоў у склад кіраўнічых органаў БНР, быў у складзе Народнага сакратарыята, дзяржаўным кантралёрам, народным сакратаром фінансаў, народным сакратаром гандлю і прамысловасці, узначальваў Цэнтральную беларускую гандлёвую палату. Стаў адным з лідараў Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў.

13 снежня 1919 г. Крэчаўскі быў абраны прэзідэнтам Рады БНР, выконваў гэтую пачэсную місію да канца жыцця. З 1920 г. быў на эміграцыі ў Літве, Чэхаславаччыне. У Празе стварыў Прадстаўніцтва Рады БНР, разгарнуў шырокую дыпламатычную дзейнасць, наладзіў інфармаванне заходнееўрапейскіх краін пра становішча ў БССР і Заходняй Беларусі. Аднагначна асудзіў ганебную Рыжскую дамову 1921 г., паводле якой падзялілі беларускія землі. Дзеля гэтага адмыслова склікаў з 26 верасня па 30 верасня 1921 г. Першую Нацыянальна-палітычную нараду беларускіх арганізацый з акупаванай бацькаўшчыны і з-за мяжы, якая асудзіла змову і пацвердзіла ідэалы незалежнасці Беларусі. Таксама асудзіў рашэнні Другой Усебеларускай канферэнцыі, якая прайшла ў 1925 г. у Берліне. Крэчаўскі ўсімі сіламі актыўна супрацьдзейнічаў бальшавіцкаму ціску, скіраванаму на ліквідацыю Урада БНР, прынцыпова не прызнаў легітымнасці БССР.

Пётра Крэчаўскі дамогся ад урада Чэхаславаччыны стыпендый для беларускіх студэнтаў, хоць сам жыў досыць бедна. Стварыў Беларускі архіў у Празе. У 1926 г. выдаў палітычна-навуковы альманах „Замежная Беларусь". Крэчаўскі — аўтар вершаванай паэмы „Рагнеда", вершаў, розных перакладаў з чэшскай і ўкраінскай моў. Каштоўнасць маюць і яго працы „Беларусь у мінулам і сучасным (нарыс геаграфічнага, гістарычнага і эканамічнага доследу)", „Гісторыя беларускай кнігі", „Мандаты Б. Н. Р.", „Скарына і незалежнасць".

Памёр прэзідэнт БНР Пётра Крэчаўскі 8 сакавіка 1928 г. у Празе, пахаваны на вядомых Альшанскіх могілках. На магіле адметны помнік. Памяць у сучаснай Беларусі пра гэтага выдатнага дзеяча не ўшанавана ніяк. Толькі ў прыватным Старадарожскім музеі захоўваюцца некалькі партрэтаў Крэчаўскага.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Заблудзіўся

Часта пад восень даводзілася мне рыхтаваць дровы. Было гэта сасновае і бярозавае галлё і вярхі па высечаным лесе. Узяўшы сякеру і пілу „дружбу", кавалак хлеба і сала, накіраваўся я ў вызначанае лясное месца, якое раней паказаў ляснік. Мінуўшы Дзернякова, ехаў я на ровары ў напрамку царскай чыгункі за Тарасэвічаў, Казлоў, як іх празываюць мясцовыя. Даехаўшы на месца, паставіў ровар на палянцы і, зрабіўшы абход, рупліва цярабіў драўніну ды складаў яе ў кучы, каб потым ляснік мог памераць і выпісаць асігнату на дровы. Адпачываючы, збіраў я грыбы ў кошык, а ягады кідаў у рот, каб піць не хацелася. Дзень хіліўся да вечара. „Ну, хопіць, — падумаў я, — нарабіўся, дык пара дахаты".

Ужо сядаў на ровар, як раптам да маіх вушэй даляцела далёкае рэха: „Ho! Ho! Ludzie! Czy ktoś mnie słyszy?!" — „Чую! Чую!" — адклікнуўся я.

Праз нейкі час з маладняку, які рос побач, выхіліўся старэйшы мужчына ў вязанай шапцы ды акулярамі на вачах. Убачыўшы мяне, уцешыўся і выгукнуў: „Panie, dobrze że pana widzę, słyszałem odgłosy siekiery. Już pół dnia błądzę, odechciało mi się wszystkiego, już ledwie żyję. Powiedz mi pan, jak się wyplątać z tego lasu i dojść do kolei". Я з сякерай у руках, а ён з вядзерцам, на дне якога качалася некалькі чырвонагаловікаў і жменя лісіц, стаялі насупраць сябе.

З вачэй незнаёмага вызіралі страх і разгубленасць. Адставіўшы сякеру на бок, каб не палохаць чалавека, на мясцовай беларускай гаворцы я спытаўся ў яго: „Скажы ты мне, даражэнькі, здалёк ты ідзеш? І як ты сюды заблудзіў?". Незнаёмы задумаўся на даўжэйшую хвіліну. „Aaa, pan mnie pyta, skąd ja idę?" і з падазрэннем глянуў на мяне. „Idę od pociągu z Sokola, ja tu na grzybach pierwszy raz...". І так мы з ім гутарылі доўгі час, — ён па-польску, а я на беларускай гаворцы. У пэўнай хвіліне ён раптоўна спыніў нашу гутарку і ўстурбаваны спытаўся: „Panie!!! A czy ja nie za granicą?!." — „Не перажывай, тут яшчэ Польшча", — з усмешкай адказаў я і ўсыпаў свае грыбы ў яго вядзерца. „Ach, dziękuję, nie trzeba!" — „А што, з пустым дадому паедзеш? Каб жонка выгнала з хаты?.. Ідзі за мной, завяду цябе на дзерняkоўскі чыгуначны пераезд і пакажу куды ісці!" — стоячы на рэйках даў я яму прапанову. „Налева Саколе — 7 кіламетраў, направа Валілы — 6 кіламетраў". — „Pójdę w stronę Sokola, zawsze to bliżej do Białegostoku". — „Ідзі па чыгуначных шпалах, а дойдзеш да мэты", — параіў я яму. Пацісну ўшы рукі адзін аднаму, мы развіталіся.

**Ян КАРПОВІЧ**

# Сухія таполі стаяць ля дарог

Гэтыя таполі не давалі мне спакою. Пра гэтыя сухія прыдарожныя дрэвы пачуў я на нядаўнім супольным вясковым сходзе жыхароў Новага Ляўкова і Старога Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. У ветраныя дні жыхарам Старога Ляўкова небяспечна ехаць па дарогах у Капітаншчыну або ў другім напрамку — у Лешукі. Вецер абтрасае сухія галіны на маставую.

Рушыў я за вёску Старое Ляўкова ў напрамку Капітаншчыны і на левым баку дарогі на яе рэзкім павароце ўлева радком стаяць сухія таполі да самой рэчкі Нараўкі. Пераехаў мост і зноў таполі на абочыне дарогі ажно да скрыжавання з дарогай у Бачынскія і Ахрымы.

Вярнуўся я назад у Старое Ляўкова, пад жылыя шматсямейныя блокі. Са скрыжавання падаўся ў бок Лешукоў. Паабапал павятовай асфальтавай дарогі на яе даволі вялікім адрэзку, да лесу, стаяць старыя таполі і сям-там пад імі ляжыць сухое голле. Даехаў я да бліжэйшага скрыжавання дарог (асфальтавай з гравійкай) і не ўбачыў больш сухіх таполяў ля дарогі ў Лешукі. Лягчэй стала на сэрцы. **(яц)**





# Адгаданка

1. словы шаптухі, якія валодаюць гаючай сілай, 2. каляіна, 3. вера ў існаванне надпрыродных сіл і магчымасць зносін з імі чалавека, 4. другі перыяд мезазою, 5. кабан, 6. карандаш, 7. брат Авеля, 8. сакавік, 9. султанат на поўначы Калімантана, 10. вакальны ансамбль, 11. маленькая жывая рыбка, якую чапляюць на кручок як прынаду для большай рыбы, 12. сіняватая прыпухласць на целе ад падскурнага кровазліцця пасля ўдару.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | 2 | | | | | | | |
| | 3 | | | | | 4 | 5 | | | | |
| | | 6 | 7 | | | | | | 8 | 9 | |
| | | | | | 10 | 11 | | | | | |
| | | | | | | | | | | | 12 |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 7 нумара**

Апора, Бона, бусел, вуха, выхад, зуб, конніца, масць, нябыт, ом, пані, Пац, ссыльны.

Рашэнне: **Закон падобны на павуціну — абмотвае слабых, а бяссільны супраць моцных**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Веры Цілюлька** з Саколкі і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 11.03 — 17.03

**(22.03. — 20.04.)** Не страчвай веры ва ўдачы, але не змагайся за іх з усяе сілы, ашчаджвай сябе. 10-15.03. прадбачваецца нечаканая прыгода. 14-16.03. вестка ці запрашэнне з замежжа. Канец пусткам у кішэні, удачы ў гульнях. Спачатку аплаці рахункі, а пасля плануй выдаткі. 11-15.03. магчымыя праблемы ў адносінах з любімымі.

**(21.04. — 21.05.)** Поспех дзякуючы цярплівасці. Магчымая гайданка настрояў. Удачы ў сардэчных справах. У сям'і асцярожна з абяцаннямі. У фірме спакой і дастатковая стабілізацыя. 10-12.03. не бярыся за справы, якія патрабуюць вялікай засяроджанасці. 16-18.03. можа аднавіцца вельмі цікавае знаёмства.

**(22.05. — 22.06.)** Не ўсё будзе ісці гладка, але не страціш добрага настрою. Да 16.03. будзе многа адбывацца. 14-16.03. цікавыя інфармацыі і карысныя кантакты. На каханне ніколі не запозна. Асобе, якая чакае твайго заахвочваючага жэсту, не дазволь чакаць (да 23.03.). Калі не маеш месца працы, сам яго ствары (да 22.03.). Займіся адкладванымі медычнымі справамі. 10-12.03. могуць паявіцца адказныя заданні, якія могуць цябе перарасці.

**(23.06. — 23.07.)** Неадкладнымі справамі падзяліся з блізкімі. Гармонія ў сям'і. Усе дарогі вядуць дадому. Навучыся адрозніваць важныя справы ад дробязі. Вельмі дбай аб страўнік, на працу ці ў школу не забывайся ўзяць паесці. 11-15.03. будзеш выглядаць менш атракцыйна чым заўсёды. 12-16.03. атрымаеш вельмі цікавую прапанову супрацоўніцтва або закончыш цяжкія перамовы наконт пераходу да канкурэнцыі.16-18.03. завершыш старыя справы.

**(24.07. — 23.08.)** Шчасце табе спрыяе, не мяшай яму. 10-14.03. можаш узяцца за самастойны праект. Многа будзе адбывацца ў любоўным і кампанейскім жыцці. Хтосьці можа цябе захапіць. Не прабуй усіх выхоўваць. У фірме напружаныя адносіны, канфліктныя сітуацыі, цяжкія размовы, на шчасце побач цябе. Можаш сам стварыць сабе месца працы (найлепш 12-16.03.). Да 23.03. найлепш Ільвам, што вучацца новаму і павышаюць кваліфікацыі. Дбай аб пастаянны час харчавання.

**(24.08. — 23.09.)** Пазітыўныя ўражанні. Новыя знаёмствы будуць інспіруючымі. Да 16.03. трэба будзе ўступіць. Да 14.03. сюрпрыз у пары. Будзеш выклікаць зацікаўленасць, можа толькі не тых, каго хочаш. 10-12.03 не паддавайся, калі хтосьці табе не адкажа. На працы многа задавальнення, вынікі ўбачыш у другой палове месяца. Не перайма йся цяжкасцямі да 16.03., пройдуць. Не інвестуй усіх грошай. 10-12.03. засыплюць цябе цяжкай працай. Парабі ўсе медычныя абследаванні (да 23.03.).

**(24.09. — 23.10.)** На працы стаў на супрацоўніцтва. 10-12.03. пазбягай дыскусіі з кіраўніцтвам. Мноства цяжкай працы, але паспяхова вырашыш усе праблемы. Праца прыемная, развінеш творчы патэнцыял. Але не бяры на сябе зашмат. Гавары аб сваіх пачуццях гучна, асабліва калі хтосьці цябе будзе крыўдзіць. Вельмі дбай аб свае ногі.

**(24.10. — 22.11.)** Планеты памогуць абмінуць перашкоды на дарозе да поспеху. Прыцягнеш новыя шанцы. Удакладніш планы. Удачы ў мастацтве. У каханні штосьць канчаецца, штосьць пачынаецца. Усё, за што возьмешся 10-13.03. прынясе пазітыўныя рэзультаты. На добрую змену ўмоў жыцця няхай разлічваюць Скарпіёны з другой дэкады. 12-16.03. удачліва можаш пайсці на сваё. 10-12.03. мусіш высветліць неўрэгуляваныя справы. З 17.03. лепшая форма.

**(23.11. — 22.12.)** 12-16.03 знойдзеш багатых спонсараў і моцных пратэктараў. Хаця будуць цяжкія, канфліктныя сітуацыі, цяжка будзе ў іх разабрацца. Удачы ў інтарэсах і падарожжах. 10-12.03. перашкоды, спазненні. 14-18.03. удачліва пры планах заручын ці павелічэння сям'і. 10-14.03. патрэбныя хуткія рашэнні на працы; разлічвай на свой інстынкт. Але вельмі асцерагайся ў фінансах 11-15.03. Маланкава адновіш сілы.

**(23.12. — 20.01.)** Востра бярыся за працу. Карысныя нагоды паявяцца самі, а ў кашалёк паплывуць грошы. Будзеш прадпрымальны і круты. Усё, за што возьмешся, удасца. 10-13.03. папхнеш уперад цяжкую справу. 11-15.03. не думай, што цябе ніхто не любіць. 12-16.03. удачна аформіш усе справы.

**(21.01. — 19.02.)** Рабі новыя, смелыя планы. Энергія і энтузіязм. Але 11-15.03. не ўпары нейкага дыскваліфікуючага цябе праліку. 10-12.03. спазненні ў падарожжах. 10-14.03 пераможаш абмежаванні, пойдзеш уперад. 10-14.03. аформіш самыя складаныя, цяжкія справы, але 10-12.03. некаторыя могуць цябе перарасці.

**(20.02. — 21.03.)** Мёртвы перыяд міне. Не адчуеш нуды і самоты. Пакажуцца новыя мэты. 12-16.03. атрымаеш больш улады. Будзеш самаўпэўнены, удачлівы, уплывовы. Імпульс да хуткага дзеяння атрымаеш 17.03. Прыязна да ўсяго свету станеш ставіцца 16-18.03. Зазз яеш у кампаніі. Не прастудзіся, больш варушыся.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Захаваць памяць народа

24 лютага адбылася ў Орлі прэзентацыя першай часткі кнігі-альбома Міхала Мінцэвіча „Orla. Historie prawdziwe”, прысвечанай настальгічнаму мінуламу мясцовых людзей, іх прамінаючым заняткам і захапленням. Мерапрыемства сабрала шмат народу, у тым ліку герояў кнігі і іх сямейнікаў. Прысутнічалі, м.інш. войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк, старшыня Гміннай рады Аляксандр Клін, настаяцель Арлянскага праваслаўнага прыхода а. Славамір Хвойка...

Ва ўводным слове дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі Анна Несцярук прывітала сабраных і сказала, м.інш.:

— Міхал Мінцэвіч цягам звыш дваццаці гадоў сабраў абшырны матэрыял, у тым ліку некалькі сотак унікальных здымкаў. Гмінны асяродак культуры завязаў супрацоўніцтва са спадаром Міхалам у 2009 годзе з праекта „Залатыя рукі. Слядамі народных творцаў Арлянскай гміны”. Спадар Міхал запар з іншымі майстрамі ўдзельнічаў у ладжаных намі занятках для дзяцей у галіне жывапісу. Вынікам гэтага праекта быў міні-альбом, які прадстаўляе творчасць народных умельцаў Арлянскай гміны. Далей, у час фэсту «Арлянскія сустрэчы» ў 2009 годзе спадар Міхал прэзентаваў свае мастацкія працы, а годам пазней фотавыстаўку, прысвечаную менавіта прамінаючым прафесіям. Сабраны ім матэрыял настолькі каштоўны, што нельга было яго пакінуць так сабе ў адно аўтарскім архіве. У час супольных гутарак паволі нарадзілася ідэя выдання альбома, прысвечанага ўвекавечаным спадаром Міхалам людзям; гэта матэрыял, які будзе служыць чарговым пакаленням. Удалося нам здзейсніць супольную задуму: узнікла кніга, дзе запісаны 79 тэм, прысвечаных прамінаючым прафесіям і захапленням. Гэтыя матэрыялы аўтарства Міхала Мінцэвіча былі апублікаваны ў 1996-2017 гадах галоўным чынам у „Часопісе” і „Ніве”; таксама, м.інш., і ў ломжынскіх „Кантактах”. Гмінны асяродак культуры ўпершыню меў нагоду выдаць так абшырны матэрыял, які сёння прэзентуем. Аўтар карпатліва збіраў матэрыялы, цярпліва слухаў сваіх суразмоўцаў, фатаграфаваў іх непасрэдна ў час працы, а гэта справа складаная, бо ж не ўсе ахвотны паказаць сябе ў ходзе работы. І матэрыял гэтай кнігі аснаваны на аўтэнтычных успамінах і рэфлексіях тутэйшых людзей, сведак мінулага часу. Простыя і адначасна незвычайныя людзі расказваюць сапраўдныя свае біяграфіі, дэталёва адлюстроўваючы свае перажыванні. Штогадова адыходзяць пажылыя людзі, забіраючы з сабою цэлую эпоху, багатую дасведчаннем мінулага веку, і ўсыхаюць такім чынам крыніцы інфармацыі пра мінулае. Таму вельмі нас радуе, што ўдалося нам выдаць кнігу, якая з'яўляецца культурна-гістарычнай візіткай Арлянскай гміны.

Сам Міхал Мінцэвіч расказаў пра сваю працу. Цягам звыш дваццаці гадоў напісаў ён некалькі тысяч артыкулаў у розныя газеты, у тым ліку і ў агульнапольскія, і ў выдаваную самім сабою. Найбольш, аднак, пісаў у нашы беларускія газеты.

— Мяняліся галоўныя рэдактары — першым быў Яўген Міраковіч, які прышчапіў мне адвагу. Жыццё прыносіла нечаканасці — паліцыянт пабіў чалавека, а галоўны кажа: «Пішы, не бойся, баяцца будзе ён». Пісаў я праўду, бо я такім нарадзіўся, такім астаюся. Не ўсім гэта падабаецца, бо часам праўду скажу ў вочы. Лепш быць шчырым і нешта страціць, чым быць крывадушным. Тут ёсць біяграфіі людзей, нельга гэтым забаўляцца. Шаную гэта, бо людзі, расказваючы пра сваё жыццё, адорылі мяне сваім даверам. Бывала і так, што прасіў я доўга, і некаторыя рашаліся на размову пасля некалькіх гадоў, іншыя не асмельваліся, а я не настойваў. А пасля быў вынік — кніжка; яны астануцца ў гісторыі. Спісваючы гэтыя гісторыі я вучыўся, быццам надалей быў у школе. Я столькі наслухаўся тых успамінаў, што складаецца ў мяне ўражанне, быццам я жыў у міжваенны час, у час бежанства і ў іншых эпохах. Наведвалі мяне вучні і студэнты за патрэбнымі ім матэрыяламі. А прыходзілі яны да мяне за падказкамі сваіх бацькоў, якія дадавалі: «Ідзі да Мінцэвіча, бо ён табе праўду скажа». Гэтыя ўсе запісаныя мною гісторыі праўдзівыя, бо кожны расказваў пра свае перажыванні.





■ Міхал Мінцэвіч падпісвае кнігу



■ У першым радзе (справа налева): Анна Несцярук, Пётр Сэльвесюк, а. Славамір Хвойка, Аляксандр Клін

Людзі свядома гаварылі ў мікрафон, ведалі, што я іх запісваю, фатаграфую; а бывала, што я яшчэ пасля кансультаваўся з імі, дапрацоўваў спісаны матэрыял. Пакойны Сцяпан Каляда з Кашалёў, які быў чытачом „Нівы”, сказаў быў мне: «Ты, Мінцэвіч, напішаш так ясна, што і камар носа не ўсадзіць» — для мяне гэта вялікі гонар. Трэба інфармаваць наша маладое пакаленне пра наша мінулае, бо гэта наша багацце і ад свайго не ўцячэм. Хачу падзякаваць нашаму войту Пятру Сэльвесюку, які як ніводзін іншы добра запісаўся ў гісторыю; бо ж можна ніяк або дрэнна. Спадар войт вельмі рупіцца пра нашу гісторыю, пра нашу тоеснасць. У Польшчы 59 гмін з двухмоўнымі табліцамі, а толькі адна беларуская — бо маем добрага войта. Я бываю ў іншых гмінах і чую нараканні: «А ваша гміна багата». Адказваю: «А хто вам бароніць быць багатымі?». Ну, Орля гэта Орля — сама назва паказвае, што гэта нешта драпежнае. І маем вынікі. Я, думаючы над загалоўкам маёй кнігі, думаў пра тое, чым цяпер займаецца наш урад — змагаецца за гістарычную праўду. Міналі гады і назбіралася шмат матэрыялу. Помню, як пачынаў я ў 1996 годзе, то добра жыў са спадаром доктарам ветэрынарыі Юзэфам Бжанам, паказаў яму „Ніву”. Ён з каталіцкай сям'і, але яго дзеці вучыліся беларускай мове. Доктар не толькі даваў мне інтэрв'ю, але, за што асабліва дзякую, даваў мне каардынаты людзей, якія многа ведалі; ён ведаў многіх, шмат гадоў працаваў між людзей. І я шмат разоў ездзіў да людзей з доктарам, а людзі мне расказвалі свае гісторыі. І гэта былі асабліва каштоўныя інфармацыі, бо людзі помнілі яшчэ царскі час; і шкадавалі, што не рабілася гэтага раней, калі жылі яшчэ іншыя сведкі больш даўняга мінулага. Паехаў я быў на ровары ў Крывятычы, там жанчыны сядзяць на лавачцы, а я зацікавіўся адзінокай жанчынай, пакойнай Аннай Клін. Пагутарыў, яна расказала як пры цары хадзіла ў школу ў Моры, нешта дрэнна прачытала і настаўнік цягаў яе за валасы, то яна больш не пайшла ў школу. І яна мне дзякавала, што я з ёю паразмаўляў, бо *коло мэнэ нэ хочут ужэ седаті, я сама*. Яны былі мне найбольш каштоўнымі, бо ў іх былі веды, якія адышлі разам з імі. Яны быццам адышлі, але яны ў мяне жывыя; я, апрацоўваючы сабраныя матэрыялы, усё з імі размаўляю. А яны ўсё адыходзяць, яшчэ апошнім годам адышлі некаторыя.

Вядучай тэмай кнігі з'яўляецца штодзённае жыццё. Гэтая тэма не цікавіць гісторыкаў, не цікавіць яна і большых медыяў. Гэта першая кніга, яна важыць паўтара кілаграма; усіх будзе чатыры — шэсць кілаграмаў гісторыі. Бежанства, яўрэі і жыццё ў міжваенны перыяд складуць другую частку; калі для гэтых тэм не будзе здымкаў, то я адпаведны сюжэт нарысую. Трэцяя частка ахопіць Другую сусветную вайну і пасляваенныя гады. Чацвёртая частка ахопіць жыццё ў ПНР і каплічныя аповеды пра наша духоўнае жыццё.

Кніга нараджалася ў болях, у спрэчках са спадарыняй дырэктар. Заходзіў я да войта, а ён мне кажа: «Калі нехта пачынае нейкую работу, то заўсёды знойдзецца хтосьці, хто будзе наракаць». І гэта мяне супакойвала, падбадзёрвала. І гэта не мая кніга — гэта наша супольная кніга, а я меў такі жыццёвы надзел, каб гэтым заняцца.

Войт Пётр Сэльвесюк:

— Я буду гаварыць па-свойму. Людзі, якія ў гэтай кніжцы прадставілі сваё жыццё, далі нам прыклад, што свайго нельга саромецца. Спадар Мінцэвіч закрануў вельмі многа матываў і да ўсіх іх зараз няма часу аднесціся. Але адзін матыў вельмі важны — наша функцыянаванне на гэтай тэрыторыі. Тое, што ў кнізе, гэта ўжо гісторыя. Кожная гісторыя нясе ў сабе эмацыянальную нагрузку. Час хутка прамінае, адыходзяць людзі, прамінаюць заняткі, бо мяняюцца абставіны. Прыкра, што няма тут мас-медыяў, толькі прадстаўнік „Нівы”, а іншых сродкаў інфармацыі няма. А ўсе ведаюць, што сёння адбываецца ў Гайнаўцы марш, дзе, скажу адкрыта, злачынца „Буры” ўсхваляецца як герой. І гэта паказвае, як можна аднесціся да гісторыі, як гісторыю скажваецца. Бо калі мардуецца 79 асоб і пасля той марш. Бо то не быў рэйд, рэйд асацыюецца з гонкамі, хіба што гэта была гонка ў мардаванні людзей. Быў гэта марш, які да цяперашняй хвіліны пацярпелыя асобы ўспамінаюць са слязамі ў вачах. І добра, што ёсць асобы, якія сумленна дакументуюць гісторыю, так як было ў сапраўднасці, а не пад патрэбы сітуацыі, пад патрэбы ўласных карысцей. Я не магу таго зразумець, што можна стаць побач, бо мы побач Гайнаўкі і нехта мог бы сказаць, што нас гэта не датычыць. Нас гэта датычыць і я таму гавару па-свойму. Пакуль мы не будзем маналітам, гаворачым што гэта мы пакрыўджаныя і дамагацца гістарычнай праўды, то ніхто за нас не будзе дапамінацца. Я яшчэ раз дзякую ўсім тым героям кніжкі, якія схацелі расказаць пра сябе, пра сваё жыццё, пра свае захапленні. Будучыя пакаленні таксама будуць вам удзячны.

У аўтарскай прадмове вылучаны словы: «Мая мэта — захаваць памяць народа і перадаць маладому пакаленню праўду пра тое, як жылося тут у мінулым, якімі былі колішнія і нядаўнія жыхары Орлі і ваколіц».

Дадам ад сябе, што кніга з'яўляецца прэзентацыяй тых сціплых і працавітых нашых людзей, якія працавалі дзеля іншых, дзеля супольнага дабра. Не ўсе іх заўважаюць, а вось Міхал Мінцэвіч іх заўважыў. Гаворыцца, што чалавек жыве столькі, колькі жыве памяць пра яго. Міхал Мінцэвіч увекавечыў сціплых і адначасна незвычайных людзей. Гэта ўшанаванне іх, і не толькі іх, бо такія людзі жылі сярод усіх нашых продкаў, працавалі дзеля іхняга дабра, а, пасрэдна, і нашага. Вялікае ім дзякуй.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 10